



# Рэгіянальная газета. Rh.by


тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА “Рэдакцыя газеты “Рэгіянальная газета”.

12+

1 снежня 2017 года №48 (1179)


# “Па тых лесвіцах хвораму не прайсці”

## Як віляйчанкі змагаюцца за перанос анкадыспансера з будынка былой турмы

старонка 21

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

### У Валожыне маладыя людзі з інваліднасцю вырошчваюць грыбы

старонка 2

### Як упрыгожыць дом, каб 2018 год прынёс шчасце

старонка 18

### Ад Германіі мы адсталі гадоў на 300: карэспандэнтка дзеліцца ўражаннямі ад наведвання Берліна

старонка 20



### Плюшч з вёскі Ласі пасадзяць у батанічным садзе ў Мінску

старонка 8

### Расследавалі забойства 14-гадовай школьніцы

старонка 4

НАВІНЫ

## Працягваюць вакцынацыю супраць грыпу

МАЛАДЗЕЧНА

Па словах **Алены Каравай**, загадчыцы аддзела эпідэміялогіі Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, на сённяшні дзень на Маладзечаншчыне прышчапілі ад грыпу 36% насельніцтва.

Па словах доктара, у бліжэйшы час вакцынацыю працягнуць, бо вакцына будзе паступаць у медыцынскія ўстановы.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Падвялі вынікі конкурсу малюнкаў на тэму паасобнага збору смецця

ВІЛЕЙКА

Сярод 30 прац журы выбрала 12 лепшых. Малюнкі пераможцаў увойдуць у каляндар на 2018 год. Календары арганізатары конкурсу падораць пераможцам. Таксама іх атрымаюць школы і іншыя ўстановы Вілейшчыны. Узнагародзяць пераможцаў у снежні. Яны атрымаюць дыпломы і сувенірную прадукцыю.

Аддзел інфармацыі.

## У Валожыне адкрылі новы фізкультурна-аздараўленчы комплекс

ВАЛОЖЫН

Аб'ект узводзілі пяць гадоў за сродкі раённага і абласнога бюджэтаў. У будаўніцтва ўклалі 11 мільёнаў 300 тысяч рублёў. З'явілася 40 працоўных месцаў.

Паводле сайта Мінаблвыканкама.

## Сістэма электроннай чаргі пачала працаваць у пункце пропуску "Катлоўка"

АСТРАВЕЦ

24 лістапада ад васьмі гадзін раніцы на беларуска-літоўскай мяжы ў пункце пропуску "Катлоўка" пачала працаваць сістэма электроннай чаргі, паведамляе БелТА.

З'явіўся таксама комплекс прыдарожнага сэрвісу. Інвест-праект па будаўніцтве комплексу рэалізавала адно з таварыстваў з турэцкімі інвестыцыямі.

У склад комплексу ўвайшлі аўтазапраўка з магазінам, стаянка для грузавога транспарту, табло электроннай чаргі, сама сістэма, якая дазваляе перавозчыку раней забраніраваць месца для мытнага афармлення на мяжы.

Паводле БелТА.

## У Мядзеле з'явілася супрацьпажарнае графіці

МЯДЗЕЛ

Новае графіці на супрацьпажарную тэматыку з'явілася на сцяне пяціпавярховага дома ў Мядзеле на вуліцы Школьнай.

Такім чынам супрацоўнікі мядзельскага РАНС нагадваюць гараджанам нумар тэлефона службы выратавання і правілы бяспекі.

Паводле сайта МНС.

## У Залессі добраўпарадкуюць парк ля сядзібы Агінскага

СМАРГОНЬ

У рамках праекта "Рэканструкцыя з рэстаўрацыяй сажалкі і гідратэхнічных збудаванняў палаца Агінскіх у Залессі" працягваюць працы.

Дно сажалкі пачысцілі ад глею, сфарміравалі берагі. Працягваюць устанаўліваць дамбу, рэстаўрыруюць каменную агароджу каля млына, ужо гатовы каркас моста. На яго кладуць насціл, устанаўліваюць палі для будучай пераправы да вострава ў сажалцы.

Паводле grodnonews.by.

## Гаварылі пра гісторыю і культуру татар

АШМЯНЫ

У Ашмянскім краязнаўчым музеі 24 лістапада правялі імпрэзу "Традыцыі на мове сяброўства", прысвечаную культуры і звычаям татар.

На мерапрыемства запрасілі жыхароў горада.

Пазнаёміць гасцей з гісторыяй і культурай татар на Беларусі прыйшоў старшыня імамаў у Беларусі **Дзмітры Радкевіч**. Ён распавёў пра звычаі, стравы, свята татарскага народа, падрыхтаваў кніжную выставу.

Вядучыя прыгадалі гістарычныя звесткі, згодна з якімі Ашмянскі павет быў месцам татарскага асадніцтва яшчэ з часоў Вялікага Княства Літоўскага. Пра гэта нагадваюць геаграфічныя назвы ў ваколіцах Крэва.

А яшчэ ў музеі распавялі, што вёска Бенюны сучаснага Ашмянскага раёна ад 1748 да 1809 год належала Сабалеўскім з татарскага роду.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Даступная прафесія для моладзі ў сельскай мясцовасці

## У Валожыне маладыя людзі з інваліднасцю вучацца вырошчваць грыбы

ВАЛОЖЫН

> – Вы б бачылі, як радуюцца нашы дзеці, калі з маленькага насення літаральна праз суткі ўжо вырастае прыгожы грыб!




Салому, неабходную для вырошчвання вешанак, мясцовае сельскагаспадарчае прадпрыемства дало бясплатна.

Так эмацыйна расказвае аб праекце для маладых людзей з інваліднасцю ў Валожыне кіраўнік ініцыятывы **Ларыса Шчарбачэвіч**.

> "Дзеці" – гэта ўдзельнікі праекта – дзесяць маладых людзей з інваліднасцю. Яны з Валожына і суседніх вёсак. Дзвюм дзяўчатам па 16 год, астатнія – старэйшыя.

У цяпліцы на тэрыторыі аддзялення дзённага знаходжання інвалідаў яны вырошчваюць грыбы-вешанкі.

### Набылі цяпліцу, саломарэзку, туманаўтваральнік

Мерапрыемствы мясцовай ініцыятывы "Даступная прафесія для моладзі ў сельскай мясцовасці" пачалі ў верасні ў рамках праекта "Мастацтва за інклюзію людзей з інваліднасцю". Праект фінансуе агенцтва ЗША па міжнародным развіцці. Усяго па Беларусі ў межах праекта рэалізуюць 14 ініцыятыў. Адну з іх – у Валожыне.

Па словах кіраўніка ініцыятывы Ларысы Шчарбачэвіч, адразу планавалі, што ўдзельнікі спачатку будуць вучыцца, а потым зоймуцца практыкай.

> Аднак фінансаванне крыху затрымалі, таму мусілі адразу і вучыцца, і працаваць.

– Да абеду нашы дзеці вучацца, а пасля абеду выходзяць на вуліцу працаваць, – распавядае Ларыса Уладзіміраўна. – Пад кіраўніцтвам педагога яны добраўпарадкуюць цяпліцу, тэрыторыю вакол яе, рэжуць і запарваюць салому, закладаюць міцэлій у мяшкі.

За прадугледжаныя праектам грошы набылі ўсё неабходнае для вырошчвання вешанак – цяпліцу на дзесяць метраў, прафесійную саломарэзку, міцэлій вешанак, спецыяльныя мяшкі, туманаўтваральнік, запарвальнікі саломы, сістэму кандыцыянавання, стэлажы, спецыяльную вопратку.

А салому бясплатна выдзеліла прадпрыемства "Сакаўшчына Агра".

### Вешанкі патрэбныя для кулінарных майстар-класаў

Цяпліцу размясцілі на тэрыторыі валожынскага аддзялення дзённага знаходжання інвалідаў Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, загадчыцай якога і з'яўляецца Ларыса Шчарбачэвіч. А сам цэнтр – партнёр праекта.

Першыя ўраджаі вешанак ужо збіраюць. Але грыбы не прадаюць. Яны патрэбныя для майстар-класаў па прыгатаванні грыбных страў, якія праводзяць тут жа, у аддзяленні дзённага знаходжання. Таму гаварыць пра тое, што вырошчванне грыбоў-вешанак будзе прыносіць нейкія грошы, пакуль рана.

– Дзеці вучацца, яны задаволеныя, працуюць з задавальненнем. Усім падабаецца, што так хутка з маленькага насення з'яўляецца ўраджай, – распавядае Ларыса Шчарбачэвіч. – Гэта справа ім па душы і па сілах, бо фізічна не асабліва цяжкая. З навучэнцамі працуюць людзі з педагагічнай і аграномічнай адукацыяй.

Праект разлічаны на сем месяцаў і павінны завяршыцца 31 сакавіка.

> У канцы праекта маркетолаг ацэніць эканамічную рэнтабельнасць праекта. Спецыялісты складуць бізнес-план.

І калі вырошчванне вешанак прызнаюць рэнтабельным, то ў Валожыне створаць унітарнае прадпрыемства і ўладкуюць на працу чатырох маладых людзей.

На думку арганізатараў, для Валожына, дзе жыве больш за 80 чалавек з інваліднасцю, гэта патрэбная ініцыятыва. Бо на сённяшні дзень больш за палову з іх знаходзіцца дома: не вучацца і не працуюць.

Пэўныя складанасці з працаўладкаваннем такіх людзей на Валожыншчыне ёсць.

Гэтыя праблемы абмяркоўваюць на "круглых сталах", запланаваных у рамках праекта. У іх удзельнічаюць прадстаўнікі службы занятасці, мясцовай улады, супрацоўнікі Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва, людзі з інваліднасцю.

– Канешне, адкрыццё ўнітарнага прадпрыемства – гэта пэўныя цяжкасці, – лічыць Ларыса Уладзіміраўна. – Напрыклад, пакуль цяпліца стаіць на тэрыторыі нашага цэнтра. А калі адкрыюць прадпрыемства, трэба будзе плаціць за арэнду зямлі. Але калі бачыш, як стараюцца ўдзельнікі праекта, вельмі хочацца, каб усё атрымалася.

Аксана ЯРАШОНАК.

# Якая цана на паслугі цырульні ў розных гарадах Беларусі?

Фота wowcher.co.uk

## БРЭСТ

мужчынская стрыжка ад 6 руб.
жаночая стрыжка ад 10 руб.
афарбоўка ад 20 руб.
вясельная прычоска ад 40 руб.

## ГАНЦАВІЧЫ

мужчынская стрыжка ад 3 руб.
жаночая стрыжка ад 7 руб.
афарбоўка ад 10 руб.
вясельная прычоска ад 25 руб.

## МАЛАДЗЕЧНА

мужчынская стрыжка ад 3 руб.
жаночая стрыжка ад 7 руб.
афарбоўка ад 15 руб.
вясельная прычоска ад 30 руб.

**МАЛАДЗЕЧАНСКІ РАЁН**
137 тыс. 707,1 руб. 19

**ГАНЦАВІЦКІ РАЁН**
27,8 тыс. 590,4 руб. 9

**БРЭСТ**
384 тыс. 59 845,7 руб.

- колькасць насельніцтва
- сярэдні заробак *
- колькасць цырульняў у горадзе-раённым цэнтры **

* - намінальная налічаная сярэднямесячная заработная плата, «Сацыяльна-эканамічнае палажэнне Брэсцкай /Мінскай/ вобласці. Студзень-верасень 2017 г.», Белстат
** - паводле інфармацыі сайта www.tam.by

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 23.11 руб. | 30.11 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2,0031 | **2,0039** |
| Еўра | 2,3553 | **2,3764** |
| Злоты, 10 | 5,5818 | **5,6599** |
| Расійскі рубель, 100 | 3,3939 | **3,4345** |
| Грыўня, 100 | 7,5022 | **7,4128** |
| **Курсы ў “Банку БелВЭБ”** | **22.11** | **29.11** |
| Еўра | 2.3340/2.3700 | **2.3700/2.3850** |
| Долар ЗША | 1.9970/2.0080 | **1.9950/2.0070** |

**ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)**

| ПРАДУКТЫ | 22.11 Цана руб. | 29.11 Цана руб. |
|---|---|---|
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,85 | **16,85** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 2,69 | **2,45** |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,98 | **6,98** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,50 | **8,50** |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,20 | **4,20** |
| Селядзец, 1 кг | 4,00 | **4,00** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 14,80 | **14,80** |
| Грэчка, 0,8 кг | 1,50 | **1,50** |
| Рыс, 0,8 кг | 1,45 | **1,45** |
| Алей “Залатая семачка”, 1 л | 2,80 | **2,80** |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | **5,20** |
| Маянэз, 200 г | 0,95 | **0,95** |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | **1,60** |
| Шпроты, бляшанка, 160 г | 1,90 | **1,90** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,60 | **1,60** |
| Агуркі, 1 кг | 3,50 | **3,85** |
| Бульба, 1 кг | 0,35 | **0,30** |
| Буракі, 1 кг | 0,60 | **0,30** |
| Гарбуз, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Кабачкі, 1 кг | 1,00 | **1,00** |
| Капуста, 1 кг | 0,29 | **0,29** |
| Капуста пекінская, 1 кг | 0,99 | **1,45** |
| Морква, 1 кг | 0,59 | **0,59** |
| Памідоры, 1 кг | 2,95 | **2,95** |
| Перац, 1 кг | 4,99 | **4,80** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,65 | **0,65** |
| Часнок, 1 кг | 4,95 | **4,95** |
| Апельсіны, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Бананы, 1 кг | 2,10 | **2,10** |
| Вінаград, 1 кг | 2,99 | **2,99** |
| Гранаты, 1 кг | 3,40 | **3,40** |
| Грушы, 1 кг | 2,49 | **3,40** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 3,50 | **3,30** |
| Ківі, 1 кг | 3,95 | **3,95** |
| Лімоны, 1 кг | 3,85 | **3,85** |
| Мандарыны, 1 кг | 3,49 | **3,80** |
| Хурма, 1 кг | 3,50 | **3,50** |
| Яблыкі, 1 кг | 1,50 | **1,49** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,80 | **1,80** |
| Масла, 1 кг | 12,00 | **12,00** |
| Мёд, 0,5 л | 7,00 | **7,00** |
| Сала, 1 кг | 11,00 | **11,00** |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | **6,00** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 3,00 | **3,00** |

НАВІНЫ

## Жанчына на "Нісане" збіла пешахода на пераходзе

МАЛАДЗЕЧНА

Адбылося гэта каля 8 гадзін раніцы 27 лістапада. 34-гадовая жыхарка Маладзечна на аўтамабілі "Нісан-Сані" ехала па вуліцы Віленскай у накірунку Вялікага Гасцінца.

Паблізу дома №36 машына наехала на 59-гадовага жыхара Маладзечна. Ён пераходзіў праезную частку па нерэгуляваным пешаходным пераходзе.

У выніку пешахода шпіталізавалі з дыягназам: "пералом малой галёначнай косці, удар плечавога сустава, выцятая рана скроневай вобласці, каленнага сустава". Мужчына быў абазначаны святлоадбівальнымі элементамі.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці.**

## Пабіў машыну з-за вялікага дзіка

ВІЛЕЙКА

У нядзелю, 26 лістапада, каля 17:30 здарылася аварыя на трасе на Мінск каля вёскі Старынкі на Вілейшчыне. Прычынай здарэння стаў вялікі дзік, які ляжаў на праезнай частцы.

Здарэнне адбылося ўжо ў цёмны час, таму кіроўца адразу нават не мог патлумачыць інспектару, што за жывёла ляжала на дарозе, – патлумачыла "РГ" намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка**.

Па яе словах, кіроўца позна заўважыў жывёлу на дарозе і, пазбягаючы сутыкнення, з'ехаў у кювет, дзе стукнуўся ў дрэва.

Сам кіроўца не пацярпеў, дзік уцёк, а машына сур'ёзна пашкоджаная.

## "Сяброўская" помста: маладзечанцы збілі мужчыну, да якога сышла сужытніца іх сябра

МАЛАДЗЕЧНА

15 лістапада два 36-гадовыя маладзечанцы прыйшлі ў госці да свайго сябра. Сталі выпіваць.

У размове гаспадар паскардзіўся на тое, што яго былая сужытніца сышла да другога мужчыны.

Госці вырашылі адпомсціць за сябра. Даведаўшыся ад яго адрас сапёрніка, яны прыйшлі да таго і беспадстаўна збілі.

Жанчыны, з-за якой адбылася бойка, дома не было. Яна адбывае пакаранне.

На мужчын 16 лістапада завялі крымінальную справу.

Пра гэта "Рэгіянальнай газеце" распавёў старшы следчы маладзечанскага РАСК **Юры Багушэвіч**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Расследавалі забойства 14-гадовай школьніцы

МАЛАДЗЕЧНА

**Завяршылі расследаванне крымінальнай справы аб забойстве жыхаркі Вязынкі.**



Следчыя на месцы здарэння.

Фота з сайта Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь.

Па версіі следчых, яе задушыў хлопец, які вызваўся правесці дадому. Падрабязнасці паведаміла афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта **Юлія Ганчарова**.

Нагадаем, школьніца знікла вечарам 29 ліпеня. На чацверты дзень пошукаў яе цела знайшлі ў лесе недалёка ад дома.

– Устаноўлена, што 24-гадовы жыхар Мінска, знаходзячыся ў адной кампаніі з 14-гадовай школьніцай, пагадзіўся правесці яе дадому. Па шляху, у лясным масіве паблізу садовага таварыства "Ударнік", паміж маладымі людзьмі паўстаў канфлікт, падчас якога абвінавачаны задушыў дзяўчыну, – распавяла Юлія Ганчарова.

Па дадзеных следства, абвінавачаны і пацярпелая былі п'яныя. Следчыя правялі шэраг допытаў абвінавачанага і сведак, а таксама праверку паказанняў на месцы. Эксперты ўстанавілі, што фігурант усведамляў свае дзеянні і мог кіраваць імі.

– Вынікі судова-медыцынскай экспертызы сталі падставай для канчатковай кваліфікацыі крымінальнай справы. Устаноўлена, што прычынай смерці стала механічная асфіксія,– удакладніла Юлія Ганчарова.

Па ўдакладненых дадзеных, згвалтавання не было. Мужчыну прад'яўленае абвінавачанне ў забойстве і здзеку з трупа. Справа перададзеная пракурору для накіравання ў суд.

Нагадаем, першапачаткова распачалі крымінальную справу па артыкуле "Забойства з асаблівай жорсткасцю", па якім фігуранту пагражаў пажыццёвы тэрмін або расстрэл. Цяпер жа за забойства яму пагражае ад 6 да 15 гадоў зняволення, а за здзек з трупа – да трох гадоў пазбаўлення волі.

У СК растлумачылі, што на целе дзяўчыны былі зафіксаваныя "шматлікія пашкоджанні", з-за чаго першапачаткова дзеянні кваліфікавалі як забойства з асаблівай жорсткасцю. Гэта значыць, меркавалася, што пашкоджанні прычыненыя пры жыцці.

Аднак пасля шэрагу даследаванняў эксперты ўстанавілі: дадзеныя пашкоджанні былі нанесеныя ўжо пасля смерці дзяўчыны. Таму кваліфікацыю змянілі.

**Паводле tut.by.**

## Дзяўчына паехала ўладкоўвацца на працу з Мядзела ў Мінск і знікла

МЯДЗЕЛ

Мядзельскі РАУС шукае зніклую без звестак **Хутрэнку Аляксандру Сяргееўну**, 20-гадовую жыхарку Мядзела.

16 лістапада дзяўчына паехала з Мядзела ў Мінск, каб уладкавацца на працу. Вядома, што ў той жа вечар у Мінску яна сустракалася з сяброўкай, пасля чаго месца знаходжання Аляксандры Хутрэнкі невядомае.

Прыкметы: рост 172 сантыметры, худая. Вочы зялёныя, валасы кароткія, чорныя.

Асобыя прыкметы: у правым вуху чорная завушніца з крыжыкам, пірсінг пад вуснамі.



Мае татуіроўкі: на шыі з левага боку – чырвона-ружовыя вусны, на левым плячы – "галава ваўка", на левым прадплеччы – "пентаграма", на правым прадплеччы – "два каты".

**Паводле УУС Мінаблвыканкама.**



## У руках выбухнула петарда

ВІЛЕЙКА

У выхадныя кампанія вілейскіх падлеткаў вырашыла ўзарваць петарду. Гульня скончылася трагічна.

Па словах **Кацярыны Млечкі**, намесніка начальніка Вілейскага РАУС, хлопчыка з раванымі ранамі двух пальцаў даставілі ў хірургічнае аддзяленне маладзечанскай бальніцы.

Пацярпелы – 14-гадовы вучань адной з гарадскіх школ. Цяпер па гэтым факце міліцыя праводзіць праверку.

– Падлеткі, якія былі з пацярпелым, блытаюцца ў паказаннях, – кажа Кацярына Аляксандраўна. – Адны кажуць, што петарду набылі ў інтэрнэт-краме, іншыя – што вырабілі самастойна.

Перад навагоднімі святамі супрацоўнікі РАУС звяртаюць увагу бацькоў, каб былі пільнымі і не дапускалі падобных здарэнняў.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Піў з жанчынай і скраў рогі мужа-паляўнічага

ВАЛОЖЫН

У лістападзе следчыя перадалі пракуратуры для накіравання ў суд справу аб крадзяжы.

Падрабязнасці расказала старшая следчая Валожынскага РАСК **Дар'я Мікуліч**.

Судзімы 28-гадовы жыхар Валожынскага раёна вызваліўся са зняволення ў ліпені. Працу не знайшоў, выпіваў.

Выпіўка са знаёмай жанчынай у яго зацягнулася на чатыры дні.

У адзін з гэтых дзён прачнуўся ў гаспадыні, бачыць проста над сабой рогі. Муж жанчыны працаваў у лясніцтве, і трафей на дзевяць галін быў яго здабычай.

Госць скраў рогі, але прапажу спачатку не заўважылі.

На другі дзень мужчына скраў іншыя рогі, на дзве галіны, а таксама захапіў рыбалоўную сетку. Скрадзенае прадаў знаёмаму.

Гаспадыня зноў не заўважала, што нешта знікла. Але неўзабаве яе наведаў сын, які ўбачыў, што зніклі бацькавы рэчы.

Няўдзячнаму госцю пагражае да чатырох год пазбаўлення свабоды.

## Запрасіў незнаёмку выпіць – і абакраў

ВАЛОЖЫН

27 кастрычніка гэту крымінальную справу следчыя накіравалі пракурору для перадачы ў суд.

Пра здарэнне расказала старшая следчая Валожынскага РАСК **Дар'я Мікуліч**.

Раней судзімы 23-гадовы жыхар Валожынскага раёна вечарам на запраўцы запрасіў незнаёмую жанчыну выпіць з ім гарэлкі. Жанчына дабіралася з Мінска ў Скідзель на спадарожных машынах. Блізілася ноч, і яна падумала, што лавіць машыну будзе разумней ужо раніцай.

Парачка вырашыла, што піць зручна ў прыдарожным бясплатным туалеце. Там яны і зладзілі застолле прыкладна да чатырох раніцы. Ахоўніца спрабавала іх выгнаць, але бессэнсоўна.

– Мужчына, выпіўшы, стаў агрэсіўным, і ахоўніца палічыла, хай сабе п'юць, абы нічога не паламалі, – кажа следчая.

**Пад пяць гадзін раніцы жанчына выйшла пакурыць. Вярнулася – няма ні сумкі, ні кампаньёна.**

Меркавана, мужчына скраў грошы, тэлефон, расчоску, скідачныя карткі.

Злачынцу пагражае да чатырох год пазбаўлення свабоды.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

● 1 СНЕЖНЯ – ДЗЕНЬ БАРАЦЬБЫ СА СНІДАМ

# Носьбітаў ВІЧ у свеце, як 3,5 Беларусі

**Напярэдадні Сусветнага дня барацьбы са СНІДам ЮНЭЙДС распачынае кампанію "Маё здароўе – маё права".**

Яна закліканая звярнуць увагу на праблемы, з якімі сутыкаюцца людзі пры рэалізацыі права на здароўе.

### Факты супраць страху

• Паводле глабальнай статыстыкі ААН па ВІЧ/СНІДу (ЮНЭЙДС), на планеце прыкладна 36,9 мільёна чалавек, інфікаваных ВІЧ. Сёлета ад прычын, звязаных з ВІЧ, у свеце памерла каля 1 мільёна чалавек.

У Беларусі з ВІЧ-станоўчых статусам зарэгістравана больш за 24 тысячы чалавек, жыве каля 19 тысяч чалавек. Паказчык распаўсюджанасці ў Мінскай вобласці складае 211,0 на 100 тысяч насельніцтва, ці 0,21% насельніцтва.

Толькі па Маладзечанскім раёне колькасць зарэгістраваных выпадкаў ВІЧ-інфікаваных на 1 лістапада – 95 (54 па горадзе і 41 па раёне), восем чалавек памерлі.

• Асноўны шлях перадачы ВІЧ – палавы, на долю якога прыпадае 72,1% выпадкаў, зарэгістраваных у вобласці сёлета. Актывізацыя палавога шляху перадачы ВІЧ-інфекцыі на працягу апошніх гадоў сведчыць аб тым, што людзі ці не ведаюць пра меры прафілактыкі інфекцыі, ці грэбуюць імі, мяркуючы, што ВІЧ-інфекцыя мае дачыненне толькі да пэўных груп насельніцтва, з якімі чалавек сябе не суадносіць.

• У эпідэмічны працэс уцягнутыя ўсе ўзроставыя групы насельніцтва. Імкліва расце колькасць выпадкаў сярод насельніцтва старэйшых узроставых груп: 81,3% з ліку зарэгістраваных з студзень-кастрычнік 2017 года выпадкаў, калі ВІЧ у старэйшых за 30 гадоў.

• Важным складнікам прафілактыкі з'яўляецца своечасовае тэставанне. Ранняя дыягностыка ВІЧ-інфекцыі спрыяе больш эфектыўнаму лячэнню, павышэнню якасці жыцця людзей, якія жывуць з ВІЧ, і памяншэнню фактараў рызыкі перадачы віруса іншым людзям.

Паводле ацэнак, цяпер толькі 70% людзей з ВІЧ ведаюць пра свой статус. Астатнія 30%, або 7,5 мільёна чалавек, маюць патрэбу ў ВІЧ-тэставанні.



Прайдзіце тэст, каб быць упэўненым, што ВІЧ – гэта не пра вас.

• Прайсці тэст у Маладзечанскім раёне, у тым ліку і ананімны, можна ў працэдурным кабінеце любой з паліклінік ці дыспансераў.

• Для найбольш уразлівых да ВІЧ-інфекцыі груп насельніцтва створаныя дадатковыя ўмовы для тэставання і кансультавання на базе сацыяльна-псіхалагічнага пункта на вуліцы Прытыцкага.

• Лекаў ад ВІЧ-інфекцыі няма. Аднак дзякуючы эфектыўнаму лячэнню антырэтравіруснымі прэпаратамі вірус можна кантраляваць і прадухіляць яго перадачу, што дазваляе хворым і тым, хто падвяргаецца рызыцы, жыць здаровым, доўгім і плённым жыццём.

• У рамках Сусветнага дня барацьбы са СНІДам ва ўстановах і арганізацыях Маладзечанскага раёна будуць арганізаваны інфармацыйна-асветніцкія мерапрыемствы: моладзевая акцыя "СТОП СНІД. Правілы жыцця" ў Палацы культуры. У межах акцыі пройдзе конкурс сацыяльных відэаролікаў "Правілы жыцця", "круглы стол" "Ведаць, каб дзейнічаць", выстава-конкурс камп'ютарнага плаката "У рытме жыцця".

Кампанія закліканая нагадаць пра тое, што права на здароўе – гэта значна больш, чым проста доступ да якасных медыцынскіх паслуг і лекаў.

**Маргарыта ПРАЦКОВА, доктар-эпідэміёлаг Маладзечанскага занальнага ЦГЭ.**

# У наступным годзе школьнікі змогуць вывучаць кітайскую мову як замежную

МАЛАДЗЕЧНА

**Такую магчымасць прапануе аддзел адукацыі, спорту і турызму Маладзечанскага райвыканкама.**

Галоўны спецыяліст сектара дашкольнай, агульнай сярэдняй і сярэдняй спецыяльнай адукацыі **Аксана Агірчук** патлумачыла, што летам з Лінгвістычнага ўніверсітэта выпускаюцца першыя спецыялісты, якія змогуць выкладаць кітайскую ў якасці замежнай мовы.

Цягам снежня педагогі вывучаюць попыт бацькоў, ці будзе патрэба ў настаўніку кітайскай мовы. Тады кітайскую будуць вывучаць як прадмет, а, напрыклад, англійскую – у якасці факультатыву.

У райцэнтры на базе гімназій №6 і №10 трэці год праводзяцца бясплатныя факультатыўныя заняткі па кітайскай мове. Іх выкладаюць запрошаныя валанцёры з Кітая. У групах могуць займацца вучні з усіх школ горада і раёна. Заняткі праходзяць і ў першую, і ў другую змены.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# Атрымаць планшэт за дзясяткі? Лёгка!

**Вам ёсць 12 год, вучыцеся ў школе і маеце "9" ці "10" па любым з прадметаў? Чаго ж вы чакаеце, далучайцеся да акцыі "Дзясятачка"!**

Пачынайце ўдзельнічаць цяпер, не чакайце канца года. Для гэтага паглядзіце, колькі ў вас ўжо выдатных адзнак, збярыце столькі бланкаў, запоўніце іх і дашліце ў рэдакцыю.

У акцыі могуць удзельнічаць школьнікі, якім ёсць 12 год, любой школы ці гімназіі Маладзечанскага, Вілейскага, Смаргонскага, Валожынскага, Мядзельскага, Ашмянскага, Астравецкага раёнаў.

Няхай удзельнічаюць і вашы аднакласнікі, каб вы атрымалі магчымасць зарабіць паход у піцэрыю для ўсяго класа.

Калі ў вас ёсць пытанні па акцыі, задавайце іх нам па пошце, тэлефоне ці ў сацыяльных сетках.

Перадавайце бланкі ці дасылайце па пошце кожны тыдзень, і вы будзеце сярод тых, хто прэтэндуе на невялікія дадатковыя падарункі.

Прымаецца адзнака па любым прадмеце, атрыманая за 2017-2018 навучальны год. На кожную адзнаку трэба асобны бланк. Прымаюцца толькі бланкі, выразаныя з газеты.

Поўны спіс правілаў акцыі чытайце на сайце rh.by: rh.by/by/457/50/18289/.

**Аддзел інфармацыі.**

**Бланк удзельніка акцыі "Дзясятачка" (№48)**

1. Імя, прозвішча ______________________
2. Дата нараджэння ______________________
3. Клас
   Школа ______________________
4. Населены пункт ______________________
5. Тэлефон, па якім можна звязацца з удзельнікам ці бацькамі
6. Прадмет, за які атрыманая адзнака ______________________
7. Якую адзнаку атрымаў ("9" ці "10") __________
8. Дата атрымання адзнакі ______________________
9. Імя, імя па бацьку ______________________
10. Прозвішча настаўніка ______________________
11. Тэлефон, па якім можна звязацца з настаўнікам ______________________
12. Подпіс настаўніка ______________________

# Дзённік мамы першакласніцы: падцягваем дысцыпліну і чакаем навагодні ранішнік

МАЛАДЗЕЧНА

**Калі вы не ведаеце, чым заняцца дома па вечарах, значыць, у вашай сям'і няма першакласніка.**

Бо ў нас заняткі кожны вечар – адзін цікавейшы за другі. На музыку малюем паняцці "мінор" і "мажор". На чытанне робім карткі, каб складаць схемы слова.

Усё вельмі проста: выразаем 12 квадрацікаў тры на тры сантыметры, пасля выразаем столькі ж кружкоў. Па чатыры зялёныя, чырвоныя і сінія. Кружкі клеім на квадраты – і карткі гатовыя.

З іх дзеці складаюць схемы слоў: чырвоны кружок – гэта галосны, сіні – цвёрды зычны, зялёны – мяккі зычны. Гэту "living" "рознакаляровую" сістэму на бацькоўскім сходзе нават бацькі зразумелі не адразу.

На ўсе ўрокі цяпер патрэбныя сігнальныя карткі: чырвоная, жоўтая і зялёная. З іх дапамогай вучань "сігналізуе" настаўніку пра тое, наколькі яму зразумелая тая ці іншая тэма. Сігнальныя карткі – таксама хэнд мэйд. На гэты раз з далучэннем таты: карткі трэба было "скляпаць" так, каб з іх атрымаўся рухомы веер.

Самастойнасці першакласнікам па-ранейшаму бракуе. Ужо набраўся цэлы гардэроб згубленых рэчаў: шкарпэткі, джынсы, шапкі, капюшоны ад куртак, гімнастычныя купальнікі, майкі. Хапіла б на невялічкі сэканд хэнд. Нехта з бацькоў сфатаграфаваў усё гэта "багацце" і выклаў у групу ў вайберы. Такім чынам некаторыя сем'і знайшлі згубленыя рэчы.

Хаця як ім не губляцца? У дзяцей з'явілася новая забава – перакідаць адзенне з аднаго гардэроба ў другі. "Іду – а над маёй галавой красовак пралятае," – дзялілася неяк усё ў тым жа вайберы адна з мам.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

"І іду ў школу – цёмна, і прыходжу са школы – цёмна". Варвара раніцай на стадыёне роднай школы.

А з паводзінамі ў класе – проста бяда. На бацькоўскім сходзе настаўніца прасіла бацькоў нагадаць дзецям, як трэба паводзіць сябе ў сталовай. А то як толькі прыйдуць у сталовую, пачынаюць забаўляцца: круціць талеркі на стале, стукаць лыжкамі, крычаць хто гучней.

І ўсё ж падарункаў на Новы год чакаюць усе. У школе ўжо пачалі вучыць навагоднія песні і танцы. А бацькі здалі грошы на падарункі. І Варвара пакуль шчыра верыць, што за бацькоўскія грошы цукеркі для яе набудзе Дзед Мароз.

**Аксана ЯРАШОНАК.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**.
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

** Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* Rh.by

# ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• ВАЗ-2107, 1991 г.в., цана дагаворная. Т. (8-029) 8240835

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Мерсэдэс МБ 100 па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Опель-Астра Ф, 1,6 мона, па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• Пежо-205, 605 дызель, па запчастках. Т. (8-033) 3500310.*

• Пежо-405, 1993 г.в, 1,6 бензін, торг. Т. МТС (8-033) 6330577.*

• Таёта-Карола, 2014 г.в., 1,6Б,. Т. Вэлком 3063523.*

• ФВ-Гольф, 1989 г.в., 1,3 аб'ём, аварыйны, 3-дзверны. Нядорага. Т. (8-029) 2766295.*

• ФВ-Пасат, 2010 г.в, 1,6 ТДІ, універсал. Т. (8-029) 3113705.

• Хундай-Лантра, 1993 г.в., па запчастках. Т. (8-033) 6664314.*

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага**.** ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

• Зімовая гума на дысках для Аўдзі з калпакамі – 4 шт., R16 205x55. Т. (8-029) 7700689.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 9961242.*

• Аўто ў любым стане. Дорага. **ПА ПРЫВАБНАЙ ДЛЯ ВАС ЦАНЕ**. Т. (8-029) 7087762.*

• Аўто, можна аварыйнае. Т. (8-029) 5677052. *

• Любое аўто на ходу. Грошы адразу. Т. (8-029) 2016100.*

• Каталізатар б/у. Т. (8-029) 9357762.

### ІНШАЕ

• Антыкаразійны цэнтр DINITROL. Апрацоўка днішча, колавых арак, схаваных поласцяў. Гарантыя ад 3 да 7 гадоў. Дыягностыка кузава і кансультацыя – бясплатныя. Наяўны, безнаяўны разлік. Маладзечна, зав. Лазневы, 10 (раён школы №1). ІП Блоцкая В. М. УНП 691898138. Тэл. Вэлком 8 (029) 3239999, МТС (8-033) 3239999.*

### ЗДАМ

• Прыватнае прадпрыемства "ВіЛуГен" здае ў арэнду прычэп, высокі, даўжыня 2400, шырыня 1270, грузападымальнасць 450 кг. Цана за суткі 15 рублёў. Магчымая арэнда з аўтамабілем і вадзіцелем. Знаходзімся ў Вілейцы. УНП 691174184. Т. (8-029) 2224931.

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ**.** ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*

# НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 2 паверх. Т. (8-029) 2746195.

• 1-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, новабудоўля, 2016 г., цэгла, 2-гі паверх. Т. (8-029) 6119180, (8-033) 6626858.*

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, 1 паверх, 35 кв. м, раён Гелянова. Т. (8-044) 4529416.*

• 1-пакаёвыя кватэры ў г. Мядзел і к.п. Нарач, новабудоўлі, з рамонтам і мэбляй. Т. (8-044) 5613160 Вэлком.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 2 паверх, падвал, паркоўка. Т. Вэлком 324-65-69.*

• 2-пакаёвая кватэра ў цэнтры Мядзела, 3 паверх. Т. Вэлком (8-029) 9434210.

• 2-узроўневы дом ў Вілейцы, цэгла, 110 кв. м, усе камунікацыі, 11,5 соткі зямлі альбо мяняю на кватэру ў Мінску. Т. (8-01771) 56170, (8-029) 6940541.*

• 3-пакаёвая кватэра на першым паверсе. Падрабязнасці па тэлефоне. Т. (8-029) 6333777, (8-029) 6888111.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• **3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, м-н "Зеніт", у доме месціцца "Еўраопт". Або здам у арэнду з заключэннем дагавора. (8-029) 6550799.***

• Гараж у ГБК Ізбіна, 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Падрабязнасці па тэлефоне (8-029) 8558089.*

• Гараж у ГБК-4 "Зеніт", насупраць прыпынку вакзала ў Вілейцы, памер 3x6 м, ёсць яма, сцяжка падлогі бетонная. Столь падшытая, дзверы уцепленыя. Ёсць тэхпашпарт. Т. (8-029) 6585886, (8-029) 5571454.

• Дом жылы драўляны, абкладзены сайдынгам, у Маладзечне (раён Старога Места), 12 сотак, вада, электрычнасць, каналізацыя (мясцовыя), гараж, лазня санвузел у доме. Т. МТС (8-029) 8208556.

• Дом жылы ў Маладзечне, газавае ацяпленне, 7 сотак, нядорага. Т. (8-029) 6691789.*

• Дом у в. Любань. Звяртацца па тэл. (8-029) 5689794.*

• Дом у в. Порса, участак 20 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у в. Снежкава (прыгарад Вілейкі). Т. (8-029) 2581605.*

• Дом у Вілейцы, у цэнтры горада, на беразе ракі Вілія, прысядзібны ўчастак 10 сотак. Т. (8-029) 6350439.

### ЗДАМ

• Здам пакой у Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.*

• Здам у арэнду ізаляванае памяшканне ў будынку магазіна ў Вілейцы. ІП Ліхачоў М.В. УНП 600438977 Т. (8-029) 5551515.*

# ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Мерсэдэс – 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ**. Vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, установка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Установка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

# СПАЧУВАННЕ

Калектыў "Рэгіянальнай газеты" выказвае шчырае спачуванне **Лазоўскай Галіне Баляславаўне** з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора – смерці бацькі.



Фота Кацярыны ДВАРЭЦКАЙ.

Дар'я і Уладзіслаў Клінцэвічы чыталі верш Якуба Коласа "На рэчцы зімою".

## Правялі конкурс чытальнікаў "Сэрцам роднага слова краніся"

МАЛАДЗЕЧНА

**Конкурс чытальнікаў "Сэрцам роднага слова краніся", прысвечаны 135-годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа, правялі ў "Маладзіку".**

Было прыемна назіраць за тым, з якой зацікаўленасцю і адказнасцю ўдзельнікі падышлі да задання. Кожны нумар прываблівау па-свойму.

Хтосьці заваёўваў увагу журы сваімі аратарскімі здольнасцямі, іншыя здзіўлялі самабытнасцю нашага народнага касцюма, трэція прыдумалі для выступлення аўтэнтычны музычны фон.

Ва ўзроставай катэгорыі 7-9 гадоў не было роўных навучэнцам гуртка "Жывое слова", які працуе ў Радашкавічах пад кіраўніцтвам **Наталлі Маскалевіч**. Уразіла самая малодшая ўдзельніца **Сафія Быліна**. Яна выканала байку Янкі Купалы "Асёл і цень". **Еўфрасіння Жураўская** выступіла з байкай "Кажух і вата". Дарэчы, дзяўчынку назвалі ў гонар асветніцы Еўфрасінні Полацкай. Яе маці **Таццяна Жураўская** расказала:

– У нас з мужам восем гадоў не было дзяцей. Кожны год мы ездзілі ў Полацк да мошчаў **Еўфрасінні Полацкай**. Маліла, каб Бог паслаў мне дзяўчынку, і дала зарок, што назаву яе ў гонар святой. Так і здарылася. Цяпер у нашай сям'і трое дзетак, нягледзячы на ўсе прагнозы дактароў.

Сярод пераможцаў быў і сямейны дуэт: навучэнец тэатральнай студыі "Казка" **Уладзіслаў Клінцэвіч** і яго маці **Дар'я**. Яны прадэманстравалі інсцэніроўку верша Якуба Коласа "На рэчцы зімою". Па словах жанчыны, твор яны з сынам выбралі не выпадкова:

> **– У мяне трое дзяцей. Мы любім гуляць разам, зімой катацца на санках, таму сітуацыя, апісаная ў вершы, знаёмая нам не па чутках.**

Яшчэ адным яскравым выступленнем стаў верш Янкі Купалы "Пад крыжам" у выкананні 16-гадовай пераможцы конкурсу **Вікторыі Стужынскай**.

– Гэты верш пра ўнутраны стан простага народа, які ўкладвае ў працу ўсё сваё жыццё. Мне ён спадабаўся сваёй складанасцю, – расказвае Віка. – Падчас рэпетыцый мы з **Кацярынай Дварэцкай**, кіраўніком аб'яднання па інтарэсах "Перспектыва", доўга думалі, як жа лепей падаць твор. І ў выніку вырашылі выбраць менавіта такі вобраз і дапоўніць тэкст тэматычнымі ілюстрацыямі.

На думку Вікторыі, мы абавязкова павінны старанна вучыць і ведаць родную мову і літаратуру, бо без іх няма нацыі беларусаў.

**Ірына БУБНОВА,**
**навучэнка школы журналістыкі "Маладзік".**

# Плюшч з вёскі Ласі пасадзяць у батанічным садзе

МАЛАДЗЕЧНА

**У лесе каля вёскі Ласі на тэрыторыі плошчай адзін гектар расце плюшч. Як трапіла сюды гэта паўднёвая расліна і як заняла такую вялікую частку лесу?**



Фота забяспечана Аляксандрам САЛАГУБАМ.

У хмызняку з плюшчом каля вёскі Ласі Аляксандр Салагуб (справа) сфатаграфаваўся з вядучым інжынерам Акадэміі навук Аляксандрам Архаравым.

Аказваецца, прамое дачыненне да гэтага мае маладзечанец **Аляксандр Салагуб**.

– Вечна зялёную расліну плюшч ведаю з дзяцінства, бо нарадзіўся і вырас на поўдні, – распавядае Аляксандр Аляксандравіч.

У Беларусі плюшч мой субяседнік таксама бачыў, але не так часта, як у паўднёвых краінах. Калі ж у 1987 годзе Аляксандр Аляксандравіч адпачываў з сям'ёй у Геленджыку, падчас адной з турыстычных паездак у горы экскурсавод прапанаваў усім адпачывальнікам узяць сабе на радзіму парасткі плюшча.

Зрабіла гэта і сям'я Салагубаў. У Маладзечне на газоне пад вокнамі Аляксандр Аляксандравіч пасадзіў прывезены плюшч. За лета экзатычная расліна прыжылася і разраслася амаль на ўвесь газон.

### Як нехта невядомы захацеў знішчыць плюшч

Аднак на наступны год плюшч, відаць, некаму перашкодзіў. Расліну аблілі моцным растворам марганцоўкі і спалілі тым самым ёй усю лістоту. Аднак карэньчыкі не пацярпелі.

Каб плюшч не загінуў, гаспадар адвёз яго да сябе на лецішча каля вёскі Ласі. Тут, на ўскрайку змяшанага лесу, Аляксандр Аляксандравіч высадзіў выратаваныя карэньчыкі. Праз нейкі час убачыў, што расліна з поўдня тут прыжылася. Спачатку мужчына нават даглядаў пасаджаны плюшч:

– Прыходзіў у лес, палоў расліну, каб трава не заглушыла яе.

Праз некалькі год маладзечанец заўважыў, што расліна пачала разрастацца, сваімі лістамі палезла на ствалы дрэў. На сённяшні дзень плюшч займае тэрыторыю прыблізна сто на сто квадратных метраў.

### Досведам маладзечанца зацікавіліся прафесіяналы

Сваім досведам Аляксандр Аляксандравіч вырашыў падзяліцца са спецыялістамі і напісаў ліст у батанічны сад Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі. Праз некаторы час атрымаў адказ:

"... Ваш досвед развядзення плюшча вельмі цікавы. Мы прыедзем, каб узяць пасадачны матэрыял і пасадзіць у батанічным садзе".

У сярэдзіне лістапада гаспадар плюшча сустракаў у лесе каля лецішча супрацоўнікаў Акадэміі навук – вядучага інжынера **Аляксандра Архарава** і вядучага навуковага супрацоўніка лабараторыі інтрадукцыі драўняных раслін **Ігара Грановіча.**

Па словах Аляксандра Салагуба, прафесіяналы здзівіліся, убачыўшы такую вялікую паляну, парослую плюшчом. Яны ўзялі парасткі, зрабілі фотаздымкі на памяць.

### Ігар Гарановіч: Аляксандр Салагуб – фанат прыроды

Мы звязаліся з Ігарам Гарановічам, каб пачуць прафесійны каментар пра ініцыятыву маладзечанца.

– Канешне, Аляксандр Салагуб – фанат прыроды, – пракаментаваў Ігар Міхайлавіч. – Ён клапоціцца пра тое, каб біялагічнае асяроддзе вакол нас было больш разнастайным.

Па словах навукоўца, ёсць некалькі відаў плюшча. Той, што развёў маладзечанец, хутчэй за ўсё, плюшч звычайны. Ён больш расце на поўдні, але нядрэнна пачувае сябе і ў Беларусі, асабліва ў яе паўднёвай частцы.

Напрыклад, плюшч упрыгожвае сцены ўніверсітэта ў Гродне. Тут, на фоне чырвонай цэглы, зялёная лістота вельмі добра глядзіцца.

На думку Ігара Гарановіча, маладзечанец, магчыма, падсвядома, вельмі ўдала выбраў месца для расліны. Ён пасадзіў плюшч у лесе, дзе больш асін, у лагчыне. Тут вільготна, няма ветру і цень – умовы, неабходныя для гэтай расліны.

Плюшч добра глядзіцца на вялікай тэрыторыі. Аднак, па назіраннях навукоўца, па дрэвах ён не ўецца, часам спрабуе, але парасткі, якія "залазяць" на дрэвы, зімой адмярзаюць.

Цікава, што на тэрыторыі з плюшчом іншыя расліны не растуць. Аднак, па словах Ігара Гарановіча, гэта не дрэнна. На яго думку, сюды можна праводзіць на экскурсію мясцовых школьнікаў. Таксама можна браць парасткі плюшча для так званага экалагічнага будаўніцтва.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Уладзімір Калачык: мой самаадданы, надзейны таварыш і жыццёвы настаўнік

МАЛАДЗЕЧНА

**Не ведаю чаму, але маімі сябрамі па жыцці былі заўсёды людзі сталага ўзросту: Ядвіга Раздзялоўская, Міхаіл Ляпеха, Вячаслаў Ляшковіч і мой дарагі і паважаны Уладзімір Міхайлавіч Калачык.**



Партрэт Уладзіміра Калачыка ў выкананні Юрася Церабуна.

**Уладзімір Калачык адрадзіў цэрквы ў Палачанах, Лебедзеве і Беніцы, а ў Мароськах і Заскавічах пабудаваў новыя.**

Усе яны – мае сапраўдныя жыццёвыя настаўнікі.

Калі Уладзіміру Калачыку было 26 гадоў, яго выбралі старшынёй калгаса.

Малады старшыня не абяцаў заможнага жыцця калгаснікам. Ён пачаў пытацца ў людзей: што, дзе, калі і пасля чаго сеяць. А паверылі яму тады, калі сам старшыня ўзяў у рукі серп і паказаў, як жалі жыта ў яго роднай вёсцы.

Ён упершыню ў краіне замест звыклых працадзён увёў гарантаваную грашовую аплату працы.

“Няма дрэннай зямлі, ёсць дрэнны гаспадар”, “Няма дрэнных людзей, ёсць дрэнныя старшыні”. З такімі патрабавальнымі словамі да сябе працаваў кіраўнік самага вядомага ў краіне Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга калгаса “Светлы шлях”.

Імя Уладзіміра Калачыка ведала ўся Беларусь. Яно было побач з такімі кіраўнікамі гаспадарак, як **Кірыл Арлоўскі**, **Уладзімір Ралько**, **Уладзімір Бядуля**. За працу яму паціскалі руку і аддавалі павагу **Пётр Машэраў**, **Сяргей Прытыцкі**, **Кірыл Мазураў**, **Мікіта Хрушчоў** і **Леанід Брэжнеў**.

У доме Калачыкаў у Заскавічах любіў бываць **Генадзь Барташэвіч**, першы сакратар Маладзечанскага гарадскога камітэта КП Беларусі, пасол па асаблівых даручэннях Міністэрства замежных спраў Беларусі. Яго жонка, піяністка **Іна Барташэвіч**, і жонка Уладзіміра Калачыка, галоўны эканаміст калгаса **Лідзія Васільеўна**, пакуль мужчыны гутарылі на тэмы сельскай гаспадаркі, хадзілі ў лес па грыбы, ягады, а потым на кухні гатавалі ежу да агульнага стала.

Такімі простымі за сталом былі высокія госці.

Пётр Машэраў любіў мерзлае сала, сырое яйка, мёд і сялянскі сыр, і гэтыя прадукты Лідзія Васільеўна магла знайсці ў самы нечаканы момант.

Дазволю сабе некалькі слоў пра ветлівую і гасцінную гаспадыню дома, жонку Уладзіміра Калачыка.

Прыгожая маладая дзяўчына Ліда, родам з Касцюковічаў, па накіраванні прыехала на працу ў Лебедзева. Неяк адразу малады старшыня закахаўся ў яе на адной з вечарынак у Мароськах.

24 ліпеня 1960 года справілі вяселле. З-за начальства не было відаць радні. Такі быў час. Каханнем і то кіравала партыя.

У кожным чалавеку Уладзімір Міхайлавіч бачыў асобу. Прывучаў да самастойнасці, творчага пошуку і ўмення самому аналізаваць вынікі сваёй працы. Вылучаў моладзь на кіруючыя пасады, за кошт калгаса пасылаў на вучобу, даваў калгаснікам пуцёўкі на аздараўленне. Нават пасылаў у камандзіроўкі за мяжу, каб убачыць, як там жывуць людзі, і каб пераняць нешта для сябе.

Як чалавек высокай культуры і духоўнасці, Уладзімір Міхайлавіч не можа не ўспамінаць тыя ганебныя часы, калі ў Лебедзеўскай царкве ў засеках захоўвалася збожжа. Калі зразумелі, што далей так жыць нельга і грамадству трэба вярнуць тыя святыні, якія былі пабудаваныя нашымі продкамі,

“С благословением за усердные труды во славу церкви Христовой”, напісана ў дзвюх ганаровых граматах патрыяршага Экзарха **Уладыкі Філарэта**, якія беражліва захоўвае Уладзімір Міхайлавіч. І чуецца ў гэтых словах не толькі ўдзячнасць Філарэта, але і людзей, і, магчыма, нават самога Бога.

**Юрась ЦЕРАБУН,**
**мастак, былы выкладчык цымбалаў, пенсіянер, Маладзечна.**



Фота забяспечанае Тамарай ЛЯШКЕВІЧ.

## “Супергаспадыняй” акцыі “РГ” стала Тамара Ляшкевіч з Вілейкі

**Цягам тыдня на нашым сайце rh.by доўжылася галасаванне за самага лепшага гаспадара і гаспадыню рэгіёна.**

Аднак у апошні дзень Тамара Ляшкевіч абагнала іншых удзельнікаў і з 660 галасамі перамагла ў нашай акцыі.

Цікава, што сама Тамара Ляшкевіч не прымала ўдзелу ў акцыі, за яе гэта зрабіла дачка, якая расказала пра сямейны рэцэпт хрушчыкаў.

І цяпер падарунак – садовы арэлі – чакае сваіх пераможцаў.

Другое месца ў акцыі заняў **Арцём Бурачонак** з Маладзечна, які сваімі рукамі будуе дом. Яму дастаўся ў падарунак набор агародніка.

Усе астатнія гаспадары, якія, на наш погляд, таксама былі вартыя перамогі, атрымаюць ад нас набор насення ў падарунак.

Дзякуй усім за ўдзел. І сачыце за нашымі навінамі. На падыходзе розыгрыш новых падарункаў.

**Аддзел інфармацыі.**




Фота wowchecl.co.uk.

# Як упрыгожыць дом, каб 2018 год прынёс шчасце

**Год Жоўтага Землянога Сабакі натхніць вас заняцца самымі важнымі рэчамі – сям'ёй. Калі ў вас зацягнуўся халасцяцкі перыяд, у новым годзе вам дакладна захочацца прыняць лёсавызначальнае рашэнне. Калі ж вы ў шчаслівым шлюбе, то актуальным будзе пытанне дзяцей.**

На змену энергічнаму Пеўню прыходзіць спакойны Сабака, якому па душы дамашняя абстаноўка. Таму сустракаць Новы год варта ва ўтульнай атмасферы, пажадана дома ці ў блізкіх сваякоў.

Для таго, каб стварыць патрэбны ўраўнаважаны настрой, трэба паклапаціцца пра ўпрыгажэнне дома. Асабліва дарэчы сёлета ўпішуцца мілыя элементы дэкору, зробленыя сваімі рукамі. Гэта могуць быць выразаныя з фетру фігуркі сабачак ці костак, можна скарыстаць кардон, дрэва ці тканіну.

Апекуну гэтага года больш па душы спакойныя колеры – бэжавы, кававы, светла-карычневы. Каб спадабацца Сабаку, неабходна паклапаціцца пра яркія акцэнты – чырвоны, аранжавы, жоўты і залаты.

Для таго, каб год быў удалым, трэба упрыгожыць уваходныя дзверы вянком. Ён павінны ледзь не гарэць колерам, няхай у ім будзе як мага больш вогненных чырвоных і залатых адценняў.

Калі ж вам пашанцавала і ў доме жыве сапраўдны сабака, пастарайцеся, каб ён адчуў свята. Не скупіцеся на пяшчоты да свайго чацвераногага сябра. І падрыхтуйце падарунак для яго, каб было чым паласавацца.

### Гасцёўня

У галоўным пакоі, дзе будзе адзначацца самая чароўная ноч года, стол засцяліце бялюткім абрусам, пажадана расшытым залацістымі ўзорамі. На ім выдатна будуць глядзецца чырвоныя талеркі.

Можна абраць і іншы варыянт сервіроўкі – аранжавы ці чырвоны абрус з вытанчанымі белымі талеркамі.

Сярод страў абавязкова павінна быць мяса з залацістай скрыначкай, а таксама жоўтая і аранжавая садавіна і гароднінa. Каля галоўнай стравы пастаўце фігурку сабакі, а стол упрыгожце яркімі свечкамі.

Чароўна будзе глядзецца самаробны свяцільнік. Вазьміце прыгожую шкляную бутэльку, пакладзіце туды гірлянду і запаліце. Некалькі такіх бутэлек і запаленыя каля іх свечкі – і вы атрымаеце казачную кампазіцыю.

### Ёлка

Даспадобы сабаку прыйдзецца жывая ёлачка. Але калі ёлка усё ж штучная, паклапаціцеся, каб яна была ўпрыгожаная галоўнымі колерамі Новага года.

**Залацістыя, жоўтыя, чырвоныя і аранжавыя адценні ёлачных упрыгажэнняў не толькі ўздымуць настрой, але прыцягнуць у новым годзе багацце.**

У пакоі размяшчайце ёлку па фэн-шую, у залежнасці ад таго, якія мэты хочаце дасягнуць у 2018 годзе.

| Размяшчэнне | Мэта |
|---|---|
| Паўночны ўсход | Розум |
| Захад | Нарадзіць дзяцей |
| Цэнтр | Здароўе |
| Поўдзень | Прызнанне і слава |
| Поўнач | Кар'ерны рост |
| Паўднёвы ўсход | Грошы |
| Усход | Умацаванне сям'і |
| Паўночны захад | Падарожжа |

У гэтым годзе актуальна ўпрыгожыць ёлку вялікімі шарыкамі яркіх колераў, пажадана чырвона-залацістай гамы. Дадайце рознакаляровыя пацеркі ці серпанцін і гірлянду. Лепш, калі агеньчыкі будуць не пярэстыя, а аднатонныя. Прыглядзецеся да гірляндаў, якія даюць жоўтае святло, а самі лямпачкі змешчаныя у розных фігурках – зорачках, сняжынках і іншых.

Самы стыльны варыянт – простая аднакаляровая гірлянда, пажадана з жоўтымі лямпачкамі, і чырвоныя шары.

Пад ёлку пакладзіце прыгожую сурвэтку ці абрусік. Падумайце, як вы ўпрыгожыце ёлачку – вертыкальна, кругамі, спіраллю ці хаатычна. Пачынайце знізу. Спачатку размясціце гірлянду, пасля мішуру, за ёй шары. Напрыканцы размясціце пацеркі і стужкі.

Чым большыя цацкі, тым на ніжэйшых галінках іх размяшчайце. Не вешайце побач цацкі аднаго колеру і памеру. Акрамя звычайных упрыгажэнняў, вазьміце прыгожую шырокую стужку. Ёй можна завязаць банцік на верхавіне, а можна ў некалькіх месцах у якасці цацак.

Абавязкова дадайце ёлачцы ўпрыгажэнні з кардону, саломы, дрэва. Вазьміце звычайную цацку і прыгожа абвяжыце яе шпагатам – атрымаецца зусім новая рэч. Вязаныя і палатняныя фігуркі, асабліва з малюнкам у клетку, дададуць утульнасці пакою.

### Вокны

Каб свята не заканчвалася пакоем з ёлкай, а нават праводзіла вас на працу і сустракала з магазіна, упрыгожце вокны.

Можаце выразаць сняжынкі і прымацаваць іх, можаце нанесці ўзор гуашшу, якая пасля лёгка змываецца. Для малюнкаў спачатку выражце трафарэты, а пасля працуйце пэндзлем.

А можна купіць спецыяльныя налепкі-вітражы. Яны добра трымаюцца і прыбіраюцца, а праз год іх можна скарыстаць яшчэ раз.

Каб новая энергія панавала ў вас увесь год, пасля святочнай ночы цягам 12 месяцаў працягвайце займацца ўпрыгажэннем дома. Ад прыборкі да капітальнага рамонту – любыя паляпшэнні прынясуць карысць не толькі квадратным метрам, але і лёсу дамачадцаў.

### 2018 – найлепшы год для сям'і

Сімвал новага года будзе падштурхоўваць трымацца традыцый. Год Жоўтага Сабакі характарызуецца стабільнасцю і спакоем.

Аднак тых, хто не вызначыўся з мэтамі і настроены песімістычна, могуць апаноўваць хвалі ўпадку сіл і энергіі.

**Звычайна ў год Сабакі не пачынаюцца войны і буйныя перавароты, хутчэй, гэта час прымірэння. Адзначаецца, што ў гады Сабакі можа павялічвацца колькасць шлюбаў і нараджальнасць.**

Калі вы спадабаецеся Сабаку, ён дапаможа вам адкрыць новыя, лепшыя якасці і змяніцца да лепшага.

**Эмілія ХВОЯ.**

НАМ ПІШУЦЬ

# Палёт. Успаміны Леаніда Эскіна

МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА

**У рэдакцыю прыйшоў ліст ад Леаніда Эскіна, які цяпер жыве ў Расіі, у Волагдзе. Ён піша, што з любоўю адносіцца да Беларусі, Маладзечна.**

Распавядае, што яго мама на 91-м годзе жыцця памерла ў Смаргоні, дзе выкладала у музычнай школе клас скрыпкі. "Пэўна, штосьці добрае і яна пакінула ў сваіх вучнях, дзеля чаго жыла і працавала", – піша Леанід Міхайлавіч.

Свае ўспаміны ён назваў "Палёт". Сёння мы прапануем іх увазе чытачоў.

***

У 1960 – 1962 гадах у Маладзечне ў Доме піянераў працаваў кіраўніком авіямадэльнага гуртка былы ваенны лётчык, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны **Іван Іванавіч Трубач**. Падчас вайны ён быў камандзірам экіпажа бамбардзіроўшчыкаў Пе 2. Магчыма, гэта быў і не Петлякоўскі самалёт, але з экіпажам у тры чалавекі.

Пасля адной бамбардзіроўкі самалёт вяртаўся на падмаскоўны аэрадром, але быў абстраляны зенітчыкамі фашыстаў. Штурман і стралок-радыст загінулі, пілот Іван Трубач быў абаронены бронеспінай, але ўсё роўна атрымаў шматлікія асколачныя раненні і, сцякаючы крывёй, вёў самалёт.

**Калі траціў прытомнасць – адкусваў часткі фалангаў пальцаў: боль, хоць і ненадоўга, вяртаў да магчымасці весці самалёт. Радыёсувязі не было.**

Трацячы прытомнасць і ўспрымаючы агні, якія не адносіліся да пасадачнай паласы аэрадрома, Іван Трубач стаў кіраваць самалёт на пасадку. Там быў зусім не аэрадром, самалёт скапатаваў, гэта значыць, ударыўся носам ў зямлю, і ўзарваўся, а пілота з бранiраванай кабінай выкінула ў гурбу снегу.




Леанід Эскін, захапіўшыся авіяцыяй у Маладзечне, працягвае прыцягваць да гэтага захаплення моладзь цяпер у Волагдзе.

## Была знесеная лабавая косць, але паставілі на ногі

Барацьба ваенных медыкаў за жыццё лётчыка з авіякатастрофы пачалася яшчэ ў трупярні, дзе цудам выявіўся пульс у чалавека, у якога была знесеная лабавая косць. На ногі паставілі, але з лётнай практыкі спісалі.

Даслужваў Іван Трубач вайну на аэрадромах Далёкага Усходу ў батальёне аэрадромнага абслугоўвання. Вярнуўся па месцы прызыву на ваенную службу ў Маладзечна.

## Выкладаў авіямадэляванне

Інваліднасць яго не задавальвала, а заняткі з дзецьмі ў авіямадэльным гуртку давалі радасць ад выхавання новых пакаленняў. Яшчэ, выкладаючы для Дома піянераў вучэбны планёр першапачатковага навучання БРО-11 – запуск з амартызатара, лябёдкі не было.

Планёр стаяў на пляцоўцы за мясакамбінатам – трапіна шляху ад палітэхнікума да Хажова, куды хлапчукамі бегалі глядзець сапраўдныя ваенныя самалёты ІЛ-28, Ту-16. Тады дэвізам былі словы: "Ад мадэлі – да планёра, ад планёра – на самалёт". Толькі планерысты ведаюць, колькі трэба было прыкласці сіл і намаганняў, каб падцягнуць БРО-11 на "лыжы" да старту і расцягнуць амартызатар, што дазваляла лятальнаму апарату падняцца на 1,5 метра над зямлёй.

## Грыбоў збіралі пад столь

Падчас летніх канікулаў Іван Іванавіч ладзіў выезды на рэйсавым аўтобусе ў свае родныя мясціны – у Куранец. Узгорак з лугам унізе даваў юным мадэлістам адчуць шчасце – мадэль планіравала секунд па 20. А каб у хлапчукоў былі кішэнныя грошы, мы ішлі з яго вясковай хаты ў лес па грыбы. Столькі баравікоў, махавікоў, маслякоў было тады! Там жа на ўзлеску знаходзіўся і прыёмны пункт, ён чамусьці называўся засолачным, і мы яго завальвалі грыбамі, сабранымі ад сняданку да абеду, пад столь.

Іван Іванавіч як былінны волат стаяў на адным месцы і замест сігналу "Ау-у-у!" крычаў: "Грыб, а грыб, ты дзе?!" Мы адгукаліся: "Я тут!". У радыусе яго моцнага баса мы набіралі кошыкі з верхам.

У 1961 годзе праходзілі рэспубліканскія спаборніцтвы па тэхнічных відах спорту. Каманда авіямадэлістаў з Маладзечна паехала на рэспубліканскі аэрадром ДТСААФ у Бараўлянах. Жылі ў палкавой палатцы, пры поўным забеспячэнні. А яшчэ там усё было ўсыпана суніцамі. Нават цяпер ад успамінаў водару і смаку слінкі пацяклі.

Гэта былі зборы. Мы рыхтаваліся да спаборніцтваў, дараблялі тое, што за навучальны год не паспелі. Дастругвалі, даклейвалі і запускалі. І гэта чарадзейства называлася – ляталі. Тут жа былі парашутысты, планерысты на суцэльнаметалічных "Прыморцах" і чэшскіх "Бланіках" (гэта не маладзечанскі аднамесны БРО-11). Трэніраваліся пілоты-спартсмены на ЯК-18, прыводзілі ўсіх у шок ад комплексаў фігур вышэйшага пілатажу "галава да галавы" майстры спорту па вышэйшым пілатажы **Вадзім Аўсянкін** з **Таісай Перасекінай**. На жаль, яны загінулі ў 1968 годзе.

## Ледзь не плачу ад шчасця

Ці маглі ж мы гаварыць ці ўспамінаць пра нашы сціплыя вынікі і "дасягненні", калі вакол панавала веліч неба?! І ў даваршэння да ўсяго наш кіраўнік Іван Іванавіч Трубач, лётчыцкую паходку якога пазнавалі, як нам здавалася, усе, змог угаварыць камандзіра планёрнага звяна ўзяць нас на "пакатушкі" на планёр "Прыморац".

Цяжка выказаць словамі ўсё тое, што адбывалася: ты сядзіш у пярэдняй кабіне, інструктар – у задняй. Чапляецца буксіровачны трос, самалёт ЯК-12 бярэ нас на буксір, левая плоскасць планёра ўтрымліваецца дарослымі спартсменамі ад датыкання да зямлі, разгон і... планёр ужо ў паветры. Круг вакол бараўлянскага аэрадрома, адчапліванне. Лёгкі шорах паветра за плексігласам (арганічным шклом) ліхтара кабіны.

Па інструктажу мае ногі не павінны датыкацца да педаляў руля павароту, а рукі павінны быць складзеныя накрыж на грудзях. Але раптам голас інструктара з-за спіны: "Возьмеш ручку кіравання?" Слоў няма, я ледзь не плачу ад шчасця, ківаю галавой і, баючыся парушыць планіраванне, трымаю яе абедзвюма рукамі. А яна – жывая, і ўжо не інструктар, а штосьці вельмі незямное прымушае мяне абурацца маім здранцвеннем.

Гэтыя 20-30 секунд – магчыма, яшчэ менш – засталіся ў памяці на ўсё жыццё. Прызямліліся. Хто і як мяне выцягнуў з кабіны – не памятаю, так зачараваў палёт. Хто быў наступны, ці то **Валодзя Аляксеенка**, ці то **Саша Дзямешка**, я не бачыў. Я лятаў. І... лятаю па сённяшні час.

## Шукаю сваякоў Івана Трубача

Пасля восьмага класа нас параскідала па розных кутках СССР. Апошнія гады настальгія прымушае заязджаць (ну, няхай і "прахадзімцам") у Маладзечна, сустракацца з сябрамі дзяцінства. Успамінаем і авіямадэлізм, і Івана Іванавіча Трубача.

Асвоіўшы пошукі ў інтэрнэце, вырашыў паглядзець на карце: Маладзечна, ага, на Вілейку дарога, стоп. А вось жа і Куранец. Нейкі генетычны код прымусіў мяне набраць: Мінская вобласць, Куранец, Іван Іванавіч Трубач. Шчоўк, і я здранцвеў – ёсць. Але калі той Іван Іванавіч Трубач дзесьці 1920 года нараджэння, то не можа менавіта ён да сённяшняга дня кіраваць прадпрыемствам сельскай гаспадаркі.

Звяртаюся да чытачоў газеты, можа, хто адгукнецца, дапаможа мне знайсці след Івана Іванавіча Трубача, яго дзяцей, унукаў. Калі з такім жа прозвішчам і з аднаго населенага пункта, то гэта сваяцкія сувязі. Абавязаны я пасласць зямны паклон, няхай нават людзям з тым жа прозвішчам, землякам Івана Іванавіча Трубача, чалавека, які ўдыхнуў са сваёй жонкай (здаецца, яе звалі Оля) Дабро, Чалавечнасць, Любоў да Радзімы ў нашы душы і гены, якія мы аддаём сваім дзецям, унукам, а вось ужо і праўнучка ёсць. Напэўна, у гэтым сэнс жыцця. Дзякуй, Іван Іванавіч. Напішу ім, патэлефаную.

Мой адрас: **160025, г Волагда, вул. Касманаўта Бяляева, дом 1-б, кватэра 57.**

Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.

КАЛЯНДАР

### 1 СНЕЖНЯ

**Сусветны дзень барацьбы са СНІДам.**

### 2 СНЕЖНЯ

**1879.** Нарадзіўся **Фелікс Стацкевіч**, грамадска-культурны дзеяч, выдавец, педагог, актывіст Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады і Таварыства беларускай школы. Скончыў Пецярбургскі ўніверсітэт. Выкладчык лацінскай мовы. Дырэктар Радашкавіцкай беларускай гімназіі імя Скарыны, старшыня Галоўнай управы Таварыства беларускай школы. Арыштоўваўся польскімі ўладамі. У 1939 – 1941 настаўнічаў у Вілейцы і Клецкім раёне. У Другую сусветную працаваў суддзёй у Смаргоні. У 1949 арыштаваны і зняволены. Пасля вызвалення ў 1950-я г. жыў у Вільні. Памёр у 1967-м. Пахаваны на праваслаўных могілках на Ліпаўцы.

### 3 СНЕЖНЯ

**1814.** Нарадзіўся **Іосіф Гашкевіч**, дыпламат, вучоны-мовазнаўца, даследчык Японіі і Кітая, натураліст, арыенталіст. У 1867 годзе выйшаў у адстаўку і жыў у маёнтку Малі (цяпер Астравецкі раён), дзе працаваў займацца ўсходняй філалогіяй. Там і памёр 5.10.1875.

### 4 СНЕЖНЯ

**90 гадоў** з часу ўстанаўлення (1927) СНК БССР ганаровага звання "Народны артыст БССР".

**90 гадоў** з часу ўстанаўлення (1927) СНК БССР ганаровага звання "Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР".

**1874.** У мястэчку Куранец Вілейскага павета нарадзіўся **Леў Альпяровіч**, беларускі жывапісец. Скончыў Пецярбургскую Імператарскую акадэмію мастацтваў (1902), вучань Рэпіна. Памёр у 1913 годзе.

### 6 СНЕЖНЯ

**1800.** Нарадзіўся **Іосіф Ходзька** (мястэчка Крывічы, цяпер Мядзельскі раён), навуковец-геадэзіст, падарожнік, тапограф. Памёр у 1881 годзе.

### 7 СНЕЖНЯ

**1824.** У маёнтку Тупальшчына Свянцянскага павета, цяпер Смаргонскі раён, нарадзіўся **Юльян Бакшанскі**, публіцыст, удзельнік паўстання 1863 – 1864 гадоў і яго кіраўнік на Маладзечаншчыне і Вілейшчыне. У 1863 годзе ў сутычцы з урадавымі войскамі загінуў у вёсцы Свечкі. Пахаваны ў Плябані Маладзечанскага раёна.

**1921.** У Заходняй Беларусі ў Радашкавічах заснаванае Таварыства беларускай школы (дзейнічала да 1937 года).

Марыя БЕРАСНЕВА.

БЕЛАРУСЬ-ГЕРМАНІЯ

# Ад Германіі мы адсталі гадоў на трыста

**Такое меркаванне мне давялося пачуць ад сябра, які ў Германіі быў упершыню. Самае дзіўнае, што гэта ўражанне і ў яго, і ў мяне склалася за адзін дзень. І так, адзін дзень з жыцця Берліна.**

### 7:00. На вуліцах можна сустрэць рэдкага раварыста

Нягледзячы на тое, што ў сем раніцы ў Берліне ўжо светла, мінака на вуліцы сустрэць не так і проста. У жылых кварталах цішыня.

Раніцай (а можа на ноч) да смеццевых кантэйнераў немцы выносяць непатрэбныя рэчы. На хвіліначку: амаль новую канапу, яшчэ адну скураную канапу, камп'ютарнае крэсла, у якога ад ножкі адкалоўся кавалак пластмасы.

Наш спадарожнік уздыхнуў: "Майго б цесця сюды! Уся дача была б у новай мэблі".

І ў паветры павісла пытанне, на якое пакуль няма адказу:

– Цікава, а ў Германіі ведаюць, што такое "рамонт адзення" або "перацяжка мэблі".

Таму што на сметніцах стаяць цэлыя стэлажы, куды можна выставіць непатрэбны абутак. Бярыце што хочаце.

Ёсць у Германіі і "Сэканды Хэнды". Амаль усё там каштуе 50 цэнтаў. Прынамсі, мяккая цацка ў паўметра была з цэннікам 50 цэнтаў. Гэта на фоне таго, што магніцік у цэнтры каштуе 5 еўра.

### 8:00. У Берліне адкрываюцца магазіны

Мясцовыя жыхары падпільноўваюць гэты час, каб у пякарні набыць выпечку, якая распахлася на ўвесь раён. Асартымент у крамах уражвае. Тут на садавіну-гародніну адведзена ледзьве не паўмагазіна. Куча нейкіх ягад, травы, садавіны. У кантэйнерах прадаюцца кактэйлі з фруктаў. Заліў ёгуртам – вось табе і карысны сняданак.

Паступова вуліцы запаўняюцца людзьмі і пачынаецца працоўны дзень.

### 11:00. На элітнай паркоўцы паркуюць выключна ровары

Ровараў тут, насамрэч, шмат. Найбольш вялікія паркоўкі ля метро і каля гандлёвых цэнтраў.

Пракат ровара на суткі каштуе 12 еўра. Калі ўлічваць, што праезд у метро каштуе амаль 3 еўра, то не дзіўна, што раварыстаў на вуліцах усё больш і больш.

І вось што здзівіла. Цэнтр горада, будынак рэйхстага. Месца працы нямецкай улады. На паркоўцы толькі ровары.

А цяпер паглядзіце на паркоўкі ля выканкамаў у Беларусі?

Дарагіх аўтамабіляў таксама няшмат. Пераважна тут ездзяць малалітражкі і электрамабілі.

Звычайная з'ява на вуліцы ўбачыць аўто на зарадцы.

### 13:00. Час абедаць

З выбарам месца, дзе перакусіць, у Берліне дакладна праблем няма. Кухня на любы густ: ад традыцыйнай нямецкай і амерыканскіх бургераў да в'етнамскай і нават сірыйскай. Не, смачным быў і сірыйскі суп з нейкага гарбуза і в'етнамская ежа з макароны і капусты з цяляцінай, але лепш за вулічныя нямецкія хот-догі з сасіскай і гарчыцай не было нічога. Каштуе такі хотдог 2 еўра.

Калі не трэба вяртацца па справах, можна сесці на вуліцы і выпіць піва. Піва, шчыра прызнацца, нейкім асаблівым не падалося. Але піць яго можна хоць у метро, хоць ля рэйхстага, хоць ля Брандэнбурскіх варотаў. Ніхто табе нічога на гэта не скажа. Мне ўвогуле падалося, што тут, у Берліне, немагчыма пачуць слова "нельга". Тут можна ўсё. Нават ехаць без білета ў метро. Хаця нас папярэджвалі, што штраф 50 еўра і няведанне нямецкай мовы цябе не вызваліць ад адказнасці. Але нам пашанцавала. Кантралёр, што зайшоў у метро і ўбачыў, што ў нас квіток неналежны, проста папрасіў выйсці на перон і даплаціць 1 еўра 60 цэнтаў.

А яшчэ нельга не адзначыць, што тут, у Берліне, вельмі высокі ўзровень сацыяльнай адказнасці. У бюро знаходак здаюць кашалькі з грашыма. І гаспадар можа не хвалявацца, што калі ён раптам недзе пакіне свой кашалёк, грамадзяне яго краіны вернуць дакладна.

### 18:00. Чаму б не пайсці на футбол?

Футбол у Германіі ў параўнанні з футболам у Беларусі – гэта неба і зямля. Нам давялося трапіць на матч нават не вышэйшай лігі, калі гуляла берлінская каманда "Уніён". Я спыталася ў фаната гэтай каманды, колькі прыкладна заўзятараў прыйдзе на гульню. Немец нават не адразу зразумеў мяне.

– Цэлы стадыён. Як можа быць па-іншаму.

Цэлы стадыён, гэта – 22 тысячы гледачоў. Ужо ў метро адчуваецца тое, што ў горадзе сёння футбол. Людзі з шалікамі, у камандный форме, канешне, з півам.

Ля стадыёна дзвіжуха.

На стадыёне прадаецца піва і глінтвейн, глювайн, як яго называюць мясцовыя.

Кубачкі з-пад напояў прынята здаваць. За кубачак табе вяртаецца адзін еўра.

Нам расказвалі, што сярод заўзятараў існуе негалоснае правіла, пасля матча збіраць кубачкі на стадыёне і здаваць іх. А гэтыя грошы ідуць на падтрымку каманды, якая вымушаная плаціць штрафы за тое, што фанаты на стадыёне паляць фаеры.

А гэта як мінімум 22000 кубачкаў, а п'юць жа падчас усяго матча далёка не па адным келіху піва!

### 20:00. "Чорная" пятніца ці не "чорная" – магазіны закрываюцца

Так адбылося, што ў Берлін мы трапілі ў "чорную" пятніцу. Але адчуць у поўнай меры нямецкі шопінг не пашанцавала, бо гандлёвыя цэнтры закрываюцца ў восем. І не хвілінай пазней. А ў нядзелю ўвогуле вялікія гандлёвыя цэнтры не працуюць. Бо гандляры маюць права на выхадны. А яшчэ я даведалася, што немцы не асабліва парацца наконт таго, да якога часу працуюць магазіны, бо свае буйныя пакупкі яны робяць у інтэрнэце. Таму ў гандлёвых цэнтрах, калі ты раптам камусьці наступіш на нагу, табе адкажуць: "Ай, нічо страшнага". Свае.

### 22:00. Начное жыццё Берліна магчыма, калі заўтра не на працу

Проста цікавае назіранне. У чацвер у 22:00 на вуліцах не сустрэнеш ні адной жывой душы, а ў пятніцу не знойдзеш ні аднаго вольнага месца ў кавярні. Немцы ўмеюць і працаваць, і адпачываць пасля гэтага.

А вось калі ім раскажаш пра тое, як у нас, сядзяць, падпёршы рукой шчаку і перапытваюцца: "Беларусы, а вы дакладна з нашай планеты"?

**Наталля ТУР.**









**Немцы выкідваюць на сметніцу канапу, у якой крыху забрудзілася абіўка. Фота № 1. Галоўныя славутасці Берліна: Брандэнбурскія вароты, фота №2, і пункт пропуску з усходняга ў заходні Берлін: "Чэк пойнт Чарлі", фота №3. Быць маладзечанцам – гэта значыць, пакінуць свой след на футболе, фота № 4. Фота Наталлі ТУР.**

# "Па тых лесвіцах хвораму не прайсці"

## Віляйчанкі змагаюцца за перанос анкадыспансера з будынка былой турмы

ВІЛЕЙКА

**На працягу апошніх тыдняў у сацсетках і блогах актыўна абмяркоўваюць праблему анкадыспансера. А падняла яе Жанна Гардынец – жыхарка Вілейкі, якая некалькі год даглядае хворую маці.**

– Што рабіць у маім узросце ў інтэрнэце? Толькі карцінкі "лайкаць" і розныя падарункі дасылаць, – пачынае Жанна размову падчас нашай сустрэчы.

Але жанчына зрабіла іншае. Дзякуючы магчымасцям сацсетак яна згуртавала вакол сябе неабыякавых жыхароў Вілейкі, каб разам вырашыць праблемы з анкалагічным дыспансерам.

Да размовы далучыліся тры сяброўкі Жанны – настаўніца музыкі **Марына Хмяльніцкая**, пенсіянеркі **Валянціна Бохан** і **Таццяна Самаль**.

Упершыню ў анкадыспансеры Жанна Гардынец пабывала ў 2013 годзе: суправаджала хворага свёкра:

– Адразу адчула, што будынак не прыстасаваны для медыцынскай установы, – прыгадвае Жанна. – Мы са старым хворым чалавекам з кійком з цяжкасцю маглі прайсці па крутых лесвіцах. На той момант там нават каталак не было, цяпер з'явіліся. Скончылася тым, што я папрасіла крэсла і ледзь не на кожнай прыступцы ставіла яго, каб свёкар адпачыў. Адчуванне было такое, быццам трапіла ў 1950-60-я гады.

– А я была там раней, у 2001 годзе, – далучаецца да размовы Валянціна Бохан. – Уражанні, падобныя да Жанніных. У анкадыспансеры памёр сваяк. Каб вынесці па тых лесвіцах нябожчыка, выйшла на вуліцу і звярталася па дапамогу да выпадковых прахожых-мужчын. Урэшце знайшла чатырох, якія дапамаглі.

### "Кажуць, кроў ад турмы па вуліцы лілася, як ручай"

Тады, у 2013 годзе, у Жанны з'явілася думка, што трэба неяк паляпшаць умовы знаходжання хворых у вілейскім анкадыспансеры. Ды і месца, дзе яны ляжаць, па словах Жанны і яе сяброўкі, працятае смерцю. Будынак стаіць тут ад 1856 года і большасці віляйчан вядома, што там была турма, дзе каталі людзей.

– Мая бабуля, якая жыла ў Вілейцы, казала, што ў вайну кроў па вуліцы ад турмы, быццам ручай, лілася, – кажа настаўніца Марына.

– А ў мяне у турме бацькі працавалі, – працягвае Валянціна. – Мама была бібліятэкаркай у турэмнай бібліятэцы, а бацька – ахоўнікам. Самі яны нічога пра сваю працу не расказвалі. А я была маладая, не пыталася. Цяпер шкадую.

Са сваякамі мусіла бываць у анкадыспансеры і Таццяна. Кажа, адчуванне такое, быццам усе сілы там пакідаюць цябе.

Пасля першага наведвання анкалагічнага дыспансера Жанна не ведала, да каго звярнуцца. Урэшце напісала лісты на 18 адрасоў: у газеты, на тэлебачанне, вілейскі райвыканкам і Савет дэпутатаў, Мінаблвыканкам, Адміністрацыю Прэзідэнта.

### Рамонт у анкадыспансеры павінны былі зрабіць у 2014-2015 гадах

Адказы атрымала амаль ад усіх: з адных установаў былі тэлефонныя званкі, з іншых – афіцыйныя лісты, якія Жанна захоўвае да сённяшняга дня. У лістах з Савета дэпутатаў, райвыканкама, упраўлення аховы здароўя Мінаблвыканкама пісалі пра тое, што ў 2014-2015 гадах у будынку анкадыспансера правядуць рамонт, ужо рыхтуюць каштарысную дакументацыю.

"У 2013 годзе будынак станцыянара анкалагічнага дыспансера ўключаны ў інвестыцыйную праграму рэканструкцыі (2 чарга). Згодна з рашэннем Мінаблвыканкама ад 25 студзеня 2013 года №92, на праектна-пошукавыя работы па рэканструкцыі будынка анкалагічнага дыспансера выдзелілі 250 мільёнаў рублёў (недэнамінаваных) … Рэканструкцыя прадугледжвае замену даху, дзвярных і аконных блокаў, ацяпленне, водаправод, каналізацыю, вентыляцыю, будаўніцтва ліфта, мэблю, абсталяванне" – вось вытрымка з ліста, які Жанна атрымала на свой зварот у 2013 годзе.

Абяцалі таксама добраўпарадкаванне тэрыторыі і будаўніцтва аўтастаянкі. Працу планавалі пачаць у 2014-2015 гадах.

Такі адказ задаволіў Жанну:

– А наконт месца размяшчэння падумалася: добра, што я "вытыркаюся". Тым больш, у тым жа лісце быў каментар, што ў шматлікіх краінах помнікі архітэктуры кардынальна мянялі сваё прызначэнне і служылі людзям.

Ад 2013 года Жанна асабліва не цікавілася, як адбываецца рамонт у Мінадыспансеры. Жанчына жыве ў іншай частцы горада, таму проста верыла, што абяцаныя перамены ідуць. Але…

– У канцы 2015 года захварэў бацька, і я трапіла туды з ім, – распавядае Жанна. – І вельмі балюча было ўбачыць, што ад 2013 года тут не адбылося ніякіх істотных змен. У мяне быў шок. Але яшчэ больш шок быў ад хваробы таты, ды і мама ў мяне на руках на той момант была ўжо вельмі хворая. Калі ў 2016 годзе бацька памёр, панесла здаваць у дыспансер наркатычныя прэпараты. Выходзячы, паглядзела на гэты будынак і вырашыла: "Не буду больш думаць пра яго. І дай Бог сюды больш ніколі не трапляць".




Марына Хмяльніцкая, Таццяна Самаль, Жанна Гардынец і Валянціна Бохан атрымалі шмат адказаў на запыты пра рамонт або перанос анкадыспансера. Іншых вынікаў пакуль няма.

### Трапіла на прыём да намесніка міністра з Ілы

Але жыццё складваецца так, што аб праблеме анкадыспансера забыць нельга. То сваяк захварэе, то сусед, кажа Жанна.

– Даведалася, што наш зямляк **Дзмітры Піневіч** з Ілы з'яўляецца першым намеснікам Міністра аховы здароўя. І вырашыла абавязкова патрапіць да яго, – прыгадвае Жанна падзеі верасня.

Атрымалася запісацца на прыём. Па словах жанчыны, Дзмітры Піневіч прыняў зямлячку, тактоўна выслухаў яе. Інфармацыю аб праблеме яму ўжо падрыхтавалі, бо падчас запісу на прыём Жанна распавяла, з якім пытаннем едзе.

– Дзмітры Леанідавіч сказаў мне, што ведае пра кепскія ўмовы ў вілейскім анкадыспансеры, на словах паабяцаў, што змены абавязкова будуць, сказаў чакаць пісьмовага адказу.

Праз месяц прыйшоў адказ, падпісаны намеснікам міністра **Вячаславам Шылам**: "… Анкадыспансер сапраўды мае патрэбу ў рамонце. Штогадова тут праводзяць цякучыя рамонты. А ў 2011-2012 гадах зрабілі капітальны рамонт паліклінікі анкадыспансера, на што выдаткавалі тры мільярды недэнамінаваных рублёў. Гэта з'явілася першай чаргой рамонту анкадыспансера. Цяпер у рамках другой чаргі капітальнага рамонту зробленая праектна-каштарысная дакументацыя на рэканструкцыю. Каштарысны кошт складае 50 мільярдаў недэнамінаваных рублёў". Тут жа паведамілі, што пытаннямі рамонту і аснашчэння дыспансера займаецца галоўнае ўпраўленне аховы здароўя Мінаблвыканкама.

Віляйчанка звярнулася туды і атрымала пісьмовы адказ пра тое, што фінансаванне рэканструкцыі прадугледжвалася за кошт інвестыцыйнага фонду. Замаўляла рэканструкцыю ўпраўленне капітальнага будаўніцтва Вілейскага райвыканкама. А паколькі ў 2016-2017 гадах фінансаванне не выдзялялі, да будаўніцтва не прыступілі.

### Як і дзе збіралася ініцыятыўная група

Праблемай Жанна пачала дзяліцца ў сацыяльных сетках:

– Ведаеце, у "Аднакласніках" ёсць акенца "Пра што вы думаеце?", а я апошнім часам ні пра што, акрамя дыспансера, думаць не магу.

Такім чынам аб праблеме даведаліся неабыякавыя людзі. Раней Жанна і яе аднадумцы не ведалі адзін аднаго ў твар, кантактавалі толькі праз сацсеткі і па тэлефонах.

Упершыню асабіста з віляйчанамі, якія вырашылі падтрымаць Жанну, яна пазнаёмілася каля кабінета дэпутата **Наталлі Жыбуль**. Але пакуль ні візіт да дэпутата, ні наведванне райвыканкама вынікаў не далі. Дэпутат адказала, што гэта пытанне не ў яе кампетэнцыі, а адказ на свой ліст, адрасаваны старшыні Вілейскага райвыканкама, жанчыны яшчэ чакаюць.

А хацелася б, каб у анкадыспансеры былі добрыя машыны для перавозкі хворых на тамаграфію, а магчыма, з'явіўся і свой апарат для такога абследавання, каб знайшлі магчымасць перанесці дыспансер з гэтага жахлівага месца ў іншае або хаця б зрабілі добры рамонт, каб нарэшце перапахавалі астанкі людзей, якія загінулі на тэрыторыі будынка, калі там была турма.

Цяпер ініцыятыўныя жанчыны хочуць стварыць грамадскую арганізацыю, якая б вырашала сацыяльныя праблемы горада. Разумеюць, што гэта пэўныя складанасці, ды і ведаў не хапае. Таму шукаюць юрыста, які б змог дапамагчы ім. Спадзяюцца, што першай вырашанай праблемай стане рамонт або перанос дыспансера.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

## Як эфектыўна пачаць партыю

**Першая шахматная карона была разыграная менш за 200 гадоў таму. Няўжо да гэтага ніякай цікавай гісторыі шахмат не было? Вядома, была. Прычым этапы развіцця шахматнага мастацтва нагадваюць этапы станаўлення кожнага моцнага шахматыста. Тлумачу.**

Усе пачаткоўцы ў шахматах не ўпускаюць магчымасці даць любы шах. Яны наіўна мяркуюць, што любы шах вядзе да поспеху. Усе пачаткоўцы ў шахматах выводзяць адразу ў бой ферзя, не думаючы пра развіццё іншых фігур. Усе пачаткоўцы спрабуюць адразу ладзіць ліхую атаку на караля, часам ахвяруючы іншымі фігурамі. І толькі пры жудаснай і кепскай абароне ўсё гэта атрымліваецца.

Такі стыль гульні панаваў у шахматах у 16-17 стагоддзях і атрымаў у гісторыі шахмат назву "італьянская школа". Рукапіс легенды таго часу **Джаакіна Грэка** (1600-1634) поўны мініяцюр. Прывяду некалькі прыкладаў. Дарэчы, падобная творчасць і цяпер сустракаецца ў партыях ну вельмі маладых шахматыстаў.

1е4 е6 2. D4 Kf6 3.Cd3 Kc6 4. Kf3 Ce7 5.h4 0-0 6.e5 Kd5 7.C: h7 +! Kp: h7 8. Kg5 + C: g5 9.hg +! Kpg6

10. Фh5 + Kpf5 11.Фh7 + g6 12.Фh3 + Kpe4 і ... ідзе мат. Гэта задача на мат у адзін ход – рашыце самі.

У той час былі два планы, калі можна так назваць, гульні. Першы план – атакаваць, атакаваць, вар'яцка лезці наперад і атакаваць. І другі план – усё забіраць і абараняцца. Часам, калі ты не прыняў ахвяру, гэта могуць расцаніць як баязлівасць. Уся гэта вар'яцкая камбінацыйна-гамбітная гульня панавала аж да сярэдзіны 18 стагоддзя, пакуль у шахматы не прыйшоў **Франсуа Філідор** (1726-1795). Акрамя заслуг у шахматах, ён адзін з заснавальнікаў французскай камічнай оперы.

Знакамітае парыжскае кафэ "Рэжанс", знакаміты настаўнік – лепшы французскі шахматыст Легаль – хутка зрабілі Філідора мацнейшым шахматыстам таго часу. Сіла яго гульні была настолькі вялікая, што надалей да канца жыцця гуляў з сучаснікамі толькі з форай. Гэта дзесьці і перамога, і бяда. Важныя не яго перамогі, а напісаная кніга "Аналіз шахматнай гульні", якая вытрымала больш за 100 выданняў!

Вось некаторыя тэзісы Філідора, якія актуальныя і дагэтуль: "Пешкі – душа шахматнай партыі; ад іх правільнай ці няправільнай расстаноўкі залежыць поспех атакі або абароны". Пешкі наперадзе, фігуры – ззаду. Гэта самая кароткая парада Філідора.

Філідор апярэдзіў свой час на сто гадоў. І сусветная шахматная грамадскасць падцягнулася і ўспрыняла яго ідэі толькі з прыходам Вільгельма Стэйніца – першага каранаванага шахматнага караля.

Знакамітая мініяцюра настаўніка Філідора Легаля. Дарэчы, гэты мат так і называецца – мат Легаля.



Імя Франсуа Філідора ўвекавечанае ў шахматнай тэорыі назвай дэбюту – "Абарона Філідора". Яна актуальная да гэтага часу і з поспехам ужываецца на гросмайстарскім узроўні на спаборніцтвах рознага ўзроўню.

Распавяду пра гэту абарону і прывяду шаблон для пачаткоўцаў прымянення.

1. Е4 е5 2. Kf3 d6! – гэты ход характарызуе так званую "Абарону Філідора", далей магчыма такое развіццё падзей: 3. D4 kf6! – яшчэ адзін выразны ход, конь контр нападае на пешку Е4. 4.Кс3 Kb8-d7! 5.Сс4 Ce7 6. 0-0 0-0 =



З вамі быў я, Віталь Качаткоў, і я распавёў вам пра Вялікага Франсуа Філідора. Прапаную рашаць задачкі на мат у адзін ход і ў маёй кніжцы "Мат у адзін ход".

Добрых вам выхадных і будзем разам з "Рэгіянальнай газетай"!



**Віталь КАЧАТКОЎ, майстар спорту па шахматах Беларусі, Маладзечна.**

# Віляйчанін стаў прызёрам на сусветным чэмпіянаце па скачках на батуце

ВІЛЕЙКА

**Навучэнец вілейскага дзяржаўнага каледжа, віляйчанін Іван Літвіновіч, вярнуўся ў родны горад з сур'ёзнай спартыўнай перамогай.**



Фота забяспечанае Святланай МАЦУКЕВІЧ.

**Займацца батутам Іван Літвіновіч пачаў шасцігадовым хлопчыкам.**

У сталіцы Балгарыі Сафіі ён стаў срэбраным прызёрам першынства свету сярод юніёраў па скачках на батуце. Другое месца ён раздзяліў з гомельскім спартсменам **Даніілам Валынцавым**. Хлопцы выступалі ва ўзроставай катэгорыі ад 15 да 16 гадоў. Выступленне доўжылася 20 хвілін і ўяўляла сабой каскад сінхронных скачкоў.

А пачыналася ўсё дзесяць год таму, калі мама, **Таццяна Літвіновіч**, трэнер па спартыўнай акрабатыцы, майстар спорту СССР па гэтым відзе спорту, прывяла шасцігадовага сына ў вілейскую дзіцяча-юнацкую школу спартыўнага рэзерву.

Цяпер Іван ужо навучэнец каледжа, ён атрымлівае прафесію аўтаслесара. За гэты час, як сам прызнаўся, было некалькі момантаў, калі хацелася кінуць батут: то нешта з практыкаваннямі не атрымоўвалася, то ўзнікалі непаразуменні з трэнерам.

Але мама недзе ўгаворамі, недзе прымусам утрымала сына ў спорце. За гэта, па словах Івана, маме ён удзячны, як, дарэчы, і першаму трэнеру **Пятру Зайцаву** і **Вользе Уласавай**, якая трэніравала хлопца апошні год перад сусветнымі спаборніцтвамі.

І вядома, першым чалавекам, якому юны батутыст паведаміў пра перамогу, была мама:

– Напісаў ёй па вайберы, а потым яна сама мне патэлефанавала, – прыгадвае Іван.

Не раз Івану даводзілася чуць, што ў маленькай Вілейцы няма магчымасцяў для моладзі праявіць сябе. А вось у яго, дзякуючы батуту, такая магчымасць даўно з'явілася. Кажа, што батут настолькі захапіў, што заняцца нейкім іншым відам спорту ніколі не планаваў.

У будучым хлопец плануе звязаць сваё жыццё са спортам. Аднак і прафесія аўтаслесара, упэўнены, лішняй у жыцці не стане. На сённяшні дзень вучоба крыху перашкаджае спорту, губляецца час для трэніровак.

Траўматычнасць гэтага віду спорту не палохае Івана. Я нават ніколі і не думаў пра гэта, прызнаўся спартсмен.

У Балгарыі Іван быў тыдзень.

– Напэўна, за гэты час паспеў разгледзець Сафію? – пытаюся ў хлопца.

– Не, – здзівіў адказам Іван. – Горад я бачыў толькі з акна гасцініцы. На тое, каб паглядзець яго, за спаборніцтвамі часу не было.

У каледжы за свайго навучэнца парадаваліся. Пасля прыезду ўсе здзіўляліся і віншавалі.

Як змянілася жыццё спартсмена пасля перамогі на сусветных спаборніцтвах? Па словах Івана, ніяк. Хіба што журналісты сталі больш назаляць.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Правялі штогадовы турнір па валейболе сярод дзіцячых камандаў Вілейшчыны

ВІЛЕЙКА

**25-26 лістапада ў "Надзеі" ў дзявяты раз правялі штогадовы турнір па валейболе сярод дзіцячых камандаў школ Вілейшчыны на прызы дзіцячага цэнтра "Надзея".**

Арганізатарамі традыцыйна выступаюць аддзел адукацыі, спорту і турызму вілейскага райвыканкама і "Надзея".

У спаборніцтвах удзельнічала шэсць камандаў юнакоў і сем камандаў дзяўчат. Сярод юнакоў першай стала каманда гімназіі "Логас", на другім месцы – валейбалісты з Даўгінава, на трэцім – Любанская сярэдняя школа.

У дзяўчат першае месца заняла каманда са Сцешыцаў, другое – валейбалісткі з Мацькаўцаў. Трэцімі сталі прадстаўніцы гарадской школы №3.

За першае месца каманды ўзнагародзілі пераходным кубкам "Надзеі", дыпломамі, памятнымі медалямі і грашовай прэміяй памерам сто рублёў.

За другое і трэцяе месцы валейбалісты таксама атрымалі дыпломы, а грашовыя прэміі склалі 80 і 60 рублёў адпаведна.

Акрамя таго, арганізатары турніру ўзнагародзілі ўдзельнікаў спецыяльнымі прызамі ў намінацыях "Лепшы нападаючы", "Лепшы абаронца", "Самы карысны гулец", "Самы актыўны балельшчык".

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Напружанне, намаганне.
3. Кастрыраваны наглядчык за жанчынамі ў гарэме.
4. Савецкі оперны спявак, бас-барытон. Нарадзіўся ў 1904 годзе ў Ашмянах.
6. Мужчына, які мае нявесту; будучы муж нявесты.
8. Невялікі востраў, часцей пясчаны.
9. Буйназярністы жоўты пясок.
11. Паглыбленне ў зямлі, якое служыць жыллём зверу.
13. Плод дуба.
14. Грашовая адзінка ў Францыі да ўвядзення ў 1799 годзе франка.
15. Ваеннае спаборніцтва рыцараў.
16. Прыемны спакой, хараство.
17. Сталіца Маўрытаніі.
19. Мера даўжыні, роўная 1,06 км, якой карысталіся да ўвядзення метрычнай сістэмы.
21. Населены пункт ў Маладзечанскім раёне на рацэ Бярэзіна.
22. Прадмет, прызначаны для гульні дзецям.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Вывад, заключэнне.
5. Частка Біблії, у якой змяшчаюцца апавяданні пра жыццё і вучэнне Ісуса Хрыста.
7. Вонкавая абалонка плода, семя.
8. Шост, тычка, звычайна з пучком травы або галінак на канцы для абазначэння мяжы, напрамку, руху.
10. Памер шрыфта.
11. Тлушч, які атрымліваецца пры прамыўцы воўны.
12. Адзіная інфармацыйная сістэма, якая складаецца са звязаных паміж сабой гіпертэкставых старонак.
13. Частка цела ў чалавека і жывёл, у якой знаходзяцца страўнік, кішэчнік, селязёнка і іншыя органы.
18. Працэс, які ўзнікае ў выніку ўздзеяння на арганізм шкоднага раздражняльніка знешняга альбо ўнутранага асяроддзя.
20. Тэрмін, які прымяняецца для парадкавай класіфікацыі музычных твораў кампазітара.

### АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №47

**Па гарызанталі.** 3. Гонар. 4. Шпакоўня. 7. Лёс. 9. Сварка. 10. Крывічы. 11. Машэка. 13. Юшка. 16. Смага. 18. Альтанка. 21. Загад. 22. Немаўля. 24. Зброя. 26. Кумпяк.

**Па вертыкалі.** 1. Пяшчота. 2. Несцерка. 5. Басейн. 6. Чараўніца. 8. Існы. 12. Трэба. 14. Шаты. 15. Шлях. 16. Сфагнум. 17. Дадома. 19. Акавіта. 20. Невада. 23. Падзея. 25. Разам.

## ГАРАСКОП 1-7 СНЕЖНЯ



**АВЕН.** Вам трэба сабрацца з сіламі. Што трэба рабіць – вы ўжо і самі ведаеце, рашучасці вам не займаць. Цяпер настаў той момант, калі марудзіць нельга, а неабходна дзейнічаць.



**ЦЯЛЕЦ.** Вас чакае сустрэча, якая паўплывае на погляды і назаўсёды зменіць ваша жыццё. А вы і праз шмат гадоў будзеце ўспамінаць яе і дзякаваць лёсу, што так адбылося. Паболей бывайце на прыродзе, адчуйце яе прыгажосць і адзінства.



**БЛІЗНЯТЫ.** Не распачынайце некалькі спраўадначасова, бо не зможаце давесці іх да канца. Падумайце над прыярытэтамі. Пазбягайце пустых размоў і людзей, якія не настроеныя на работу.



**РАК.** Вы – самадастатковы чалавек. Не звяртайце ўвагу на выпады некаторых нядобразычліўцаў, яны проста вам зайздросцяць. Не забывайце пра сябе. Адчуйце любоў да сябе, папесціце сябе прыемнымі ўражаннямі. Купіце сабе тое, што даўно збіраліся набыць.



**ЛЕЎ.** Чаргуйце працу і адпачынак – так вы захаваеце бадзёрасць і добры настрой. Калі што і не паспяваеце, то не перажывайце – хутка вы атрымаеце дапамогу. І не будзьце такія запальчывыя, бо гэта не садзейнічае ўзаемаразуменню ні з кім.



**ДЗЕВА.** Адчувайце сябе лёгка, не бярыце ў галаву лішнюю інфармацыю, не імкніцеся ўсё зразумець, ва ўсім разабрацца і ўсюды паспець – вам гэта абсалютна ні да чаго. У гэты час адкрываюцца новыя грані вашай эмацыйнасці, але пры гэтым неабходна захоўваць умеранасць, каб пачуцці не захліснулі вас з галавой.



**ШАЛІ.** Вы рызыкуеце стаць заложнікам зямных даброт, трапіць у залежнасць ад іх і ў цяжкі момант не знайсці выйсце з неспрыяльнай сітуацыі. Толькі погляд з розных бакоў і пад рознымі вугламі на звыклыя для вас рэчы можа паказаць іх такімі, якімі яны ёсць на самой справе. Няхай цяпер вашымі спадарожнікамі стануць здаровы розум і памяркоўнасць.



**СКАРПІЁН.** Вы моцна пагружаныя ў пытанні матэрыяльнага характару. Вам трэба перагледзець свае погляды, бо грошы прыходзяць і сыходзяць, любыя матэрыяльныя каштоўнасці часовыя і не дазваляюць вам духоўна развівацца.



**СТРАЛЕЦ.** Не звяртайце ўвагу на дробныя падкопы лёсу, праз колькі часу вы ўжо нават і не ўспомніце, што вас хвалявала цяпер. Дазвольце сабе ні пра што не клапаціцца, адпусціць падзеі ў вольны плаванне, а самі даверцеся закліку свайго сэрца, рабіце толькі тое, што прыносіць вам задавальненне, а не тое, што вы лічыце правільным ці неабходным.



**КАЗЯРОГ.** Вучыцеся нейкі час расслабляцца і ні пра што не думаць. Ідэі, якія пасля прыходзяць, увасабляйце ў жыццё.



**ВАДАЛЕЙ.** Вашы эмацыйныя парывы часам зусім не да месца, пад уплывам пачуццяў і эмоцый вы можаце штосьці ўтварыць. Ды і кантраляваць сябе вы не ўмееце. Таму спачатку ўсё разбурыце, а пасля будзеце ўзнаўляць з нуля. Хаця тут ёсць і добры момант: можна пазбавіцца ад старога і набыць лепшае новае.



**РЫБЫ.** Заплануйце цяпер прыемныя вашаму сэрцу клопаты, і ваш поспех гарантаваны – так гавораць зоркі.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 5 | | | 2 | | | | 7 | 8 |
| | | | | | | 5 | 1 | 4 |
| | 8 | 7 | | | | 9 | | |
| | | | | 6 | | 4 | 3 | |
| 7 | | | | 3 | | | 9 | 1 |
| | 6 | | | | | | | 2 |
| | 9 | 3 | 4 | | | | | |
| | | 5 | 6 | | 9 | | | 3 |
| | 2 | | | | 5 | 7 | 8 | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**

ISSN 1991–7155
9 771991 715006

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2017

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 2 снежня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +1 / +1 | | +1 / +2 | | +1 / 0 | | -1 / 0 | |
| | 732 | ↗ 3 | 743 | → 3 | 741 | ↘ 5 | 742 | → 5 |
| Вільня | +1 / +1 | | +1 / +3 | | 0 / +1 | | -2 / 0 | |
| | 735 | ↗ 7 | 749 | → 4 | 749 | → 3 | 748 | → 4 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 9.12
Захад 16.52
Даўжыня дня 7.40

Усход 16.42
Захад 6.51
Поўня

| Горад | Тэмпература | Ціск | Вецер |
|---|---|---|---|
| Віцебск | +1 / +1 | 750 | ↗ 4 |
| Гродна | +1 / +2 | 754 | → 3 |
| Мінск | +1 / +2 | 743 | → 3 |
| Магілёў | 0 / +1 | 750 | ↗ 4 |
| Брэст | 0 / +3 | 752 | ↘ 3 |
| Гомель | +1 / 0 | 753 | ↖ 1 |

## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

**НАРАЧ**

Мінімальная тэмпература -17,7 °C у 2010 годзе
Максімальная тэмпература +9,2 °C у 2009 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 6,9 мм у 2007 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- Як у будынку Следчага камітэта Архангельскай вобласці наш чытач пазнаёміўся з будучым лаўрэатам Нобелеўскай прэміі Іосіфам Бродскім.







## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

**Бывае і так: піў з жанчынай і скраў у яе рогі мужа-паляўнічага**

Вы нічога не пераблыталі? Можа, наставіў рогі, а не скраў. *Альгерд*

**У вёсцы Пажарышча цяпер няма з кім павітацца, а раней было нават сваё "тэлебачанне"**

Цудоўны матэрыял пра Пажарышча. Малайчына Жанна, што так цікава расказала пра сваю вёску, яе невялікую, але адметную гісторыю. Мне гэта блізка, бо ў 20 год мяне, так бы мовіць, абралі дэпутатам Гарадоцкага сельскага Савета па Пажарышчанскай акрузе. І першым загадам выканкама была задача зрабіць агароджу могілак. Ад мяне гэта было так далёка на той час, а вось для моладзі часу не шкадавала, бо у першую зіму ўжо абралі сакратаром камсамольскай арганізацыі калгаса. *Ларыса*

**Чысць – спартыўная сталіца Маладзечаншчыны. Узнагароджанне футбалістаў ФК "Чысць" (фота)**

Воў-воў-воў. Лягчэй з загалоўкам. Смешна ж. *Арцём Д.*

**Спявачка Кіра Трыш: Калі жанчыне ёсць што паказаць, варта гэта паказваць**

Так актыўна пачалі праект і хутка перагарэлі. Ці ў Маладзечне толькі шэсць прыгажунь. *Ірына.*

**Запрасіў незнаёмку выпіць з ім у прыдарожным туалеце і абакраў**

Час рамантыкі ад "РГ". *Дзмітры.*

**Экспрэс-апытанне ў Маладзечне: калі і куды вы апошні раз ездзілі на цягніку?**

У Барысаў, на футбол. *Павел.*

## ПРОСТА АНЕКДОТ

Званок у "хуткую дапамогу":
– Дапамажыце, мой сын наеўся мурашак!
– Ну, нічога страшнага, ён іх зможа пераварыць. Дайце шклянку малака.
– Ой... А я атруту ад мурашак дала.

***

Мужык пасля п'янкі тэлефануе ў міліцыю:
– Алё! Камандзір, у мяне машыну абакралі!
– Супакойцеся. Раскажыце, што скралі.
– Ды ўсё! Магнітолу, руль адкруцілі, педалі нават спілавалі!
– Будзем шукаць.
Праз пяць хвілін зноў тэлефануе.
– Алё. Камандзір, выбачай, на задняе сядзенне сеў.

***

– Ты дзяўчына маёй мары! Прыгожая, вясёлая.
– Ты хочаш правесці са мной ноч без абавязальніцтваў?
– А якая разумная...

***

– Я цябе кахаю.
– Дзякуй, ужо не трэба.

***

Рэклама:
– Наша прадпрыемства машынабудаўнічае выпусціла пробную партыю дзіцячых цацак. З нашымі цацкамі вы заўсёды знойдзеце сваё дзіця там, дзе пакінулі!

# Цягнікі да Вільні спыняцца будуць

МАЛАДЗЕЧНА

**Цяпер гаворка ідзе пра цягнікі №805 (ранішні да Вільні), №807 (вячэрні да Вільні) і №806 (вячэрні да Мінска).**

Прыпынак пакуль не вярнулі толькі цягніку №804, які раніцай ідзе з Вільні да Мінска.

У прэс-службе Беларускай чыгункі пракаментавалі, што, хутчэй за ўсё, вернуць прыпынак і гэтаму цягніку.

– Пытанне цяпер разглядае літоўскі бок. Мы ж упэўненыя, што прыпынак у такім буйным чыгуначным вузле, як Маладзечна, быць павінны. Пачакаем адказу літоўскіх калег, тады будзем даваць навіну.

**Наталля ТУР.**

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Якія мовы варта вывучаць у школах?



**Віталь Млечка, прадпрымальнік:**
– Найперш у беларускіх школах павінны вывучаць беларускую мову. І не два прадметы – мова і літаратура, а матэматыку, фізіку, хімію і іншыя. Ну, і англійскую, без яе нікуды. Вельмі шкадую, што ў маёй школе англійскай не было, вельмі складана ў замежных паездках.



**Вадзім Бабей, кіроўца:**
– Беларускую мову дзеці павінны ведаць абавязкова! Таксама як і рускую. Што тычыцца замежнай мовы, то гэта рашэнне бацькоў. Я за англійскую, яна найбольш папулярная ў свеце.



**Аляксей Бобрык, вучань:**
– У школе вучу рускую, беларускую і англійскую мовы. Не лічу важным вучыць французскую, бо на ёй размаўляе менш людзей, чым на англійскай. У школах дарэчы вучыць кітайскую, якую я вучу самастойна. Кітайская мова няпростая, але казаць, што яна вельмі цяжкая, нельга. У ёй цяжкае напісанне і нязвыклае гучанне.



**Вольга Саюнава, аператар на станцыі Маладзечна:**
– Па магчымасці вывучаць трэба беларускую, рускую і англійскую мовы. Калі ведаеш англійскую – можаш паразумецца ў любой краіне свету.



**Кацярына Козел, псіхолаг:**
– Абавязкова трэба вучыць беларускую мову і размаўляць на ёй. Англійскую вучыць з ранняга ўзросту, спатрэбіцца ў дарослым жыцці. Перспектыўная кітайская мова, шмат фірмаў працуе з Кітаем. Чым больш ведаеш моў, тым прасцей будзе ў працы. І ўвогуле, хай мазгі трэніруюцца.



**Ульяна Малікава, настаўніца англійскай мовы:**
– Беларускую, рускую, англійскую. Кітайскую сама не пагадзілася б вывучаць. Лічу яе цяжкай і не зусім патрэбнай у будучыні.



**Ірына Грынкевіч, настаўніца англійскай мовы:**
– Нашы дзеці не разумеюць беларускую мову, мне часта даводзіцца перакладаць некаторыя словы шасцігадовай дачцэ. Але вывучаць яе трэба. У беларускамоўную школу мы не пойдзем, баюся, будзе складана перакладаць хімію, фізіку і біялогію. А з замежных вывучаць трэба англійскую.

**Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№48 (1179) 1.12.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330 /190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1140 . Падпісана ў друк у 9.00 30.11.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518**.
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.